ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 2 (2404) 12 студзеня 1995 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 100 рублёў.

ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ

## АКАДЭМІК Іларыён ІГНАЦЕНКА:

# "ПРАФЕСІЯНАЛІЗМ – УЛАСЦІВАСЦЬ, ПАТРЭБНАЯ Ў ЛЮБОЙ СПРАВЕ"

**28 снежня 1994 года споўнілася 75 гадоў вядомаму беларускаму гісторыку, акадэміку Іларыёну Ігнаценку. Чалавек з багатым жыццёвым вопытам, ён быў сведкам складаных і супярэчлівых падзей гісторыі нашай краіны: калектывізацыі і індустрыялізацыі, Вялікай Айчыннай вайны, цяжкага пасляваеннага аднаўлення. Ваяваў супраць фашыстаў у складзе Каспійскай і Азоўскай флатылій.**

**Творчая, навуковая дзейнасць Іларыёна Мяфодзьевіча доўжыцца больш за 40 гадоў. Выкладаючы ў Белдзяржуніверсітэце і працуючы ў навукова-даследчых установах, ён вядзе плённую навуковую работу. Іларыён Ігнаценка з'яўляецца аўтарам 6 змястоўных манаграфій і звыш 200 іншых работ.**

**Асаблівую навуковую цікавасць уяўляюць манаграфіі "Бяднейшае сялянства -- саюзнік пралетарыята ў барацьбе за перамогу Кастрычніцкай рэвалюцыі (1917--1918 гг.)", "Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя ў Беларусі", "Кастрычніцкая рэвалюцыя і самавызначэнне Беларусі". Аўтар разглядае складаныя праблемы нашай гісторыі: звяржэнне на Беларусі царскай улады, стварэнне Саветаў, дзейнасць бальшавікоў, развіццё беларускага нацыянальнага руху і станаўленне беларускай дзяржаўнасці.**

**У сваіх даследаваннях ён заўсёды кіруецца глыбокім і ўсебаковым аналізам фактаў.**

**Выдатны кіраўнік і здольны арганізатар, І.Ігнаценка стварыў сапраўдную гістарычную школу: падрыхтаваў 20 дактароў і больш за 60 кандыдатаў навук. У адносінах з калегамі Іларыён Мяфодзьевіч -- прынцыповы, патрабавальны і добразычлівы чалавек.**

**Асоба творчая, ён ніколі не спыняецца ў навуковым пошуку. Цяпер ужо рыхтуецца да выпуску чарговая кніга Іларыёна Ігнаценкі "Рэвалюцыя, якая адбылася" з новым поглядам на падзеі кастрычніка 1917 года. Разглядаецца цяжкі працэс нараджэння дзяржаўнасці Беларусі. У сувязі з гэтым першае пытанне да акадэміка Іларыёна ІГНАЦЕНКІ:**

*-- Якія новыя погляды, канцэпцыі ўтрымлівае ваша кніга "Рэвалюцыя, якая адбылася"?*



– Яна напісана зусім з іншага пункту погляду на рэвалюцыйны працэс у Расіі XX стагоддзя. Дагэтуль існавала канцэпцыя трох рускіх рэвалюцый: 1905–1907 гадоў, Лютаўская 1917 года і Кастрычніцкая 1917 года, што разглядалася з пэўнага часу як галоўная падзея нашага стагоддзя.

Я прыйшоў на падставе аналізу новых фактаў да іншай высновы. Сутнасць яе такая: рэвалюцыя ў Расіі была адна -- дэмакратычная. Адбывалася ж яна ў тры этапы, на кожным з якіх вырашаліся свае задачы. Тое, што мы лічылі асобнымі рэвалюцыямі, было часам яе ўздымам. Рэвалюцыйныя баі 1905--1907 гадоў вымусілі царскі ўрад выдаць вядомы Маніфест, які дазваляў пэўныя свабоды, абвяшчаў большыя правы працоўнага люду, выклікаў рэформы Сталыпіна. Потым быў працяглы спад рэвалюцыі, новы ўздым якой паскорыла першая сусветная вайна. Другі пік буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі прыпаў на люты-сакавік 1917 года і г.д.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ...І ПАЧАЎСЯ ГОД СІНЯЙ СВІННІ



**-- Божухна, колькі свінства! -- так і хочацца ўсклікнуць, гледзячы на калекцыю сімпатычных парсючкоў, якую многія гады збіраў вядомы беларускі гукарэжысёр Уладзімір Сакульскі. Але ж гэтыя самыя словы просяцца на язык і ў дачыненні да іншых сітуацый нашага сённяшняга жыцця. Згодна з усходнім гараскопам, год сіняй свінні -- традыцыйна шчодры. Але пачаўся ён з паведамлення, што і без таго шалёныя цэны адпраўляюцца ў цалкам вольны палёт... Вызваляць цэны за кошт уласнага народа не надта сумленны шлях да дасягнення ўсеагульнага дабрабыту, але гавораць, што свіння, якая стала сімвалам надышоўшага года, не вельмі разборлівая жывёліна. А ўвогуле, гледзячы на тоўсценькіх парсючкоў з калекцыі Уладзіміра Сакульскага, чамусьці хочацца запытацца: "Ну, перажылі мы з вамі год змяі, год сабакі, пацука, малпы, перажывём і год свінні. А ці настане калі-небудзь год Чалавека!"**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

ПРЫХОДЗЬЦЕ НА "ВОЛЬНУЮ СЦЭНУ"

# ТЭАТР, ЯКІ ЗДЗІЎЛЯЕ СВАІМІ ПАСТАНОЎКАМІ

МНОГІЯ, хто цікавіцца тэатрам, ужо чулі пра "Вольную сцэну". Так называецца Рэспубліканскі тэатр-лабараторыя беларускай драматургіі. З'явіўся ён яшчэ ў 1991 годзе, а першы спектакль адбыўся на пачатку 1992 года на малой сцэне Купалаўскага тэатра. З самага пачатку дзейнасці "Вольная сцэна" здзівіла гледача сваімі пастаноўкамі. Па-першае, п'есы былі незвычайныя, па-другое, аўтары іх амаль нікому невядомыя. Уладзімір Савуліч убачыў пастаноўку сваёй п'есы "Сабака з залатым зубам", Ігар Сідарук напісаў для тэатра п'есу "Галава". Дарэчы, спектакль па апошняй здаўся цікавым не толькі мінчукам. Тэатр са спектаклем "Галава" быў запрошаны на тэатральны фестываль эксперыментальных спектакляў у Каір. Аднак трапіць у Егіпет не давялося.

Калі аўтары п'ес, што ідуць у тэатры, мала каму вядомыя, то мастацкага кіраўніка і дырэктара тэатра-лабараторыі Валерыя Мазынскага ведаюць на Беларусі. Валерый Мазынскі -- заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Ён шмат гадоў працаваў у Акадэмічным тэатры імя Я.Коласа ў Віцебску, 13 гадоў быў яго галоўным рэжысёрам. Як ён адважыўся заняцца тэатрам-лабараторыяй, калі, здавалася, меў ужо пэўнае месца ў тэатральным асяродку?

Валерый Мазынскі лічыць, што галоўным спадарожнікам творчай асобы з'яўляецца няўпэўненасць, самакрытычнасць. Рэжысёр паставіў шмат спектакляў. Але прызнаецца, што кожную п'есу пачынае з адчуваннем, нібы ніколі нічога не ставіў. Незадаволенасць сабой і сваёй працай ніколі не пакідала яго. Яна і штурхнула рэжысёра да новай справы -- арганізацыі тэатра-лабараторыі.

Што ж значыць тэатр-лабараторыя, тэатр-эксперымент? Валерый Мазынскі адказвае:

-- Яшчэ падчас працы ў віцебскім тэатры даволі часта я сутыкаўся з п'есамі пачынаючых драматургаў. На жаль, іх творы даводзілася абыходзіць, бо для рэпертуарнага акадэмічнага віцебскага тэатра патрэбны вярняк, гэта значыць – п'еса, якую можна адразу ставіць у план, размяркоўваць ролі паміж акцёрамі і рэпеціраваць. Мы ж выхаваны на адказнасці. Калі ў нас ставілі спектакль, ён павінен быў, як самалёт ТУ-134, узляцець, доўга лятаць і вазіць на сабе. Усе памятаюць, як прымаліся спектаклі, якая вялікая колькасць людзей каля гэтага была. Галоўнай мэтай любога спектакля лічылася адпаведнасць яго дзяржаўным ідэям, свайму месцу ў грамадстве.

Здаецца, цяпер ужо не трэба нікому адпавядаць, акрамя толькі самога сябе. Але часам усё роўна адчуваеш сябе ў нейкіх унутраных ланцугах, якія трапілі да цябе з выхаваннем. Дзякуючы працы на "Вольнай сцэне", я паступова пазбаўляюся комплексаў адпаведнасці некаму і нечаму.

Калі я працаваў у Віцебску, мне часта прыходзілася адмаўляць пачынаючым драматургам. Беларускамоўных тэатраў вельмі мала ў рэспубліцы. Таму і несла моладзь свае п'есы ў віцебскі і Купалаўскі тэатры. А там іх не бралі, бо працаваць з пачынаючым аўтарам рызыкоўна. Мы на "Вольнай сцэне" ідзем на такую рызыку -- працуем з маладымі і малавядомымі драматургамі. Часта чытаем некалькі старонак п'есы і бачым, што яна таленавітая, хоць і напісана часам няўмела. Разам з аўтарам пачынаем ствараць спектакль. Мы дапамагаем яму ўбачыць свой твор на практыцы. Акцёры прайграюць выбраныя сцэны з п'есы. Аўтар адразу бачыць недахопы свайго твора і з радасцю дапрацоўвае яго. Калі аўтар бачыць, што яго п'есу ўспрымаюць сур'ёзна, аддаюць свой час, каб ён убачыў яе хібы, ён пачынае верыць, што да яго ставяцца шчыра. Дарэчы, мы нават плацім драматургу за падрыхтоўчую працу да спектакля ў тэатры. Такой справай ніхто больш на Беларусі не займаецца. Таму і называем яе мы эксперыментам у тэатры-лабараторыі.

У трупе тэатра 17 акцёраў. На "Вольнай сцэне", між іншым, працуе заслужаная артыстка Беларусі Таццяна Мархель. Асноўную ж частку трупы складаюць леташнія выпускнікі Акадэміі мастацтваў. Валерый Мазынскі сам набіраў студэнтаў на першы беларускамоўны курс акцёрскага аддзялення Акадэміі мастацтваў, потым працаваў са студэнтамі 5 год іх навучання. Зараз усе яны артысты тэатра. Супрацоўнікі тэтра працуюць па кантракту тэрмінам на адзін год. В.Мазынскі мае кантракт з Міністэрствам культуры і друку.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*АНТОНЧЫК CONTRA ПРЭЗІДЭНТ*

## "БАЦЬКУ" БІЦЬ ГУРТАМ

**У Мінску створаны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы да правядзення ў пачатку 1995 года агульнанацыянальнага сходу, заявіў дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі Сяргей Антончык, вядомы сваім нядаўнім антыкарупцыйным выступленнем у парламенце.**

**У звароце С.Антончыка да суайчыннікаў, з якім ён выступіў напярэдадні Новага года, утрымліваецца заклік да грамадскасці прыняць удзел у падрыхтоўцы і правядзенні агульнанацыянальнага сходу з мэтай кансалідацыі грамадства і пошуку шляхоў выхаду з крызісу. "Нам неабходна сказаць праўду Прэзідэнту... -- гаворыцца ў звароце. -- Калі ў Прэзідэнта і яго каманды няма добрай волі да канструктыўнага супрацоўніцтва, трэба прыняць, у адпаведнасці з Канстытуцыяй, рашэнне аб правядзенні рэферэндуму аб даверы Прэзідэнту".**

*КІРМАШЫ*



**Свята чараўніцтва, прыгажосці і фантазіі -- "Навагодні мінскі кірмаш" -- прайшло ў Мінску. Яго арганізатары -- выставачная кампанія "Экспасервіс" і дырэкцыя выставачнага комплексу "Мінскэкспа" — запрасілі разнастайныя таленты, якія праявілі сябе ў мастацтве, камерцыі і бізнесе.**

**У праграме кірмашу -- дэманстрацыя і продаж арыгінальных тавараў народнага спажывання, сучасных мадэляў адзення і абутку, шырокая культурная праграма. Перад наведвальнікамі выступілі вядомыя фальклорныя і танцавальныя калектывы рэспублікі.**

**А галоўнае, наведвальнікі кірмашу змаглі набыць навагоднія і калядныя падарункі па цэнах, на сорак працэнтаў ніжэйшых за звычайныя.**

**НА ЗДЫМКУ: у час кірмашу.**

*ПРЭСА І СВАБОДА*

## 8 ГАЗЕТ У АПАЛЕ

**Васьмі незалежным беларускім газетам (у тым ліку "Свабодзе", "Белорусской деловой газете") "Беларускі Дом друку" адмовіў у друкаванні пад выглядам "перагружанасці друкарні". На самай справе -- за нязгоду з афіцыйным курсам і імкненне насуперак волі Прэзідэнта азнаёміць грамадскасць з дакладам дэпутата С. Антончыка на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі.**

**На прэс-канферэнцыі, якую правялі рэдактары апальных выданняў, была зроблена заява, дзе адзначаецца, што вышэйпамянёны крок адміністрацыі Прэзідэнта з'яўляецца парушэннем канстытуцыйных правоў грамадзян і журналістаў патрабуюць асабіста ад кіраўніка дзяржавы адмяніць распараджэнне адміністрацыі Прэзідэнта аб забароне друкавання газет.**

**Як заявіў дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі, рэдактар газеты "Свабода" Ігар Гермянчук, пачаўся збор подпісаў дэпутатаў Вярхоўнага Савета для звароту ў Канстытуцыйны суд краіны.**

*ЗВАРОТ*

## ПА МАРАЛЬНУЮ ПАДТРЫМКУ

Апошнія трывожныя падзеі, звязаныя са з'яўленнем "белых плямаў" на газетных старонках, адмовай "Беларускага Дома друку" ў падаўжэнні кантрактаў на друкаванне шэрагу незалежных газет і, нарэшце, звальненнем галоўных рэдактараў "Советской Белоруссии" і "Рэспублікі", сталі падставай для звароту Саюза журналістаў Беларусі да Міжнароднай канфедэрацыі журналісцкіх саюзаў (Масква) і Міжнароднай федэрацыі журналістаў (Брусель).

Тое, што адбываецца са сродкамі масавай інфармацыі ў краіне, у звароце ахарактарызавана як "грубае парушэнне канстытуцыйнага права чалавека на свабоднае атрыманне інфармацыі".

*ЗАМЕЖНАЕ РЭХА*

## ПАВАЖАЦЬ СВАБОДУ СЛОВА

**Дзяржаўны дэпартамент ЗША выступіў з афіцыйнай заявай з нагоды забароны друкавання ў беларускіх агульнанацыянальных газетах даклада Сяргея Антончыка. У дакуменце нагадваецца, што ЗША "з заклапочанасцю ставяцца да любога выпадку цэнзуры ў адносінах да прэсы" і што "свабодныя, пазбаўленыя цэнзуры сродкі масавай інфармацыі з'яўляюцца асноватворным элементам дэмакратыі".**

*ЧЭКАВАЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ*

## СПЯШАЕМСЯ АСЦЯРОЖНА

**Міністэрства па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі Беларусі падвяло вынікі чэкавай прыватызацыі ў 1994 годзе.**

**Цікаўнасць да чэкавай прыватызацыі ў мінулым годзе праявілі толькі 27,9 працэнта грамадзян рэспублікі, якія маюць права на долю дзяржаўнай уласнасці. З амаль 8 мільёнаў чалавек толькі 2 210 663 звярнуліся ў камісіі з заявай аб налічэнні ім імянных прыватызацыйных чэкаў "Маёмасць". Яшчэ менш -- 8,5 працэнта насельніцтва -- сталі ўладальнікамі сертыфікатаў, гэта значыць уласнікамі долі дзяржаўнай уласнасці, якая ім належыць.**

**Да пачатку новага года на руках у жыхароў Беларусі аказалася 63 701 000 чэкаў. 8 515 000 чэкаў, ці 13,4 працэнта ад іх колькасці, ужо выкарыстаны для набыцця акцый і доляў дзяржаўнай маёмасці.**

*ДЗЯРЖАЎНЫЯ ПРЭМІ*

## ВІНШУЕМ ЛАЎРЭАТАЎ

**Напярэдадні Новага года Прэзідыум Вярхоўнага Савета і Кабінет Міністраў нашай рэспублікі разгледзелі і зацвердзілі прапановы Камітэта па Дзяржпрэміях у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.**

**У галіне літаратуры прэмія імя Янкі Купалы прысуджана Раісе Баравіковай за кнігу паэзіі "Люстэрка для самотнай". Уладальнікам прэміі імя Кастуся Каліноўскага стаў рэжысёр Міхаіл Ждановскі за стварэнне дакументальных стужак "Дарога на Курапаты", "Жаўрукі Беларусі", "Успамін пра Міколу Равенскага". Дзяржаўная прэмія прысуджана таксама пісьменніку Уладзіміру Юрэвічу за кнігу для дзяцей "Слова жывое, роднае, гаваркое". У галіне журналісцкай прэмія прысуджана журналісту Анатолю Мяснікову за кнігу "Нацдэмы". Лёс і трагедыя Фабіяна Шантыра, Усевалада Ігнатоўскага, Язэпа Лёсіка".**

**У галіне музыкі і канцэртнавыканаўчай дзейнасці прэміі атрымаюць: кампазітар Леанід Захлеўны (за песні апошніх гадоў і зборнік песень для дзяцей "Верасвёвы вальс") і піяніст Ігар Алоўнікаў -- за канцэртныя праграмы апошніх гадоў.**

**Дзяржаўныя прэміі прысуджаны таксама кампазітару Андрэю Бандарэнку за оперу "Князь Навагрудскі", пастаўленую ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета; Зінаідзе Мажэйка, Ніне Савва, Алегу Шклярэўскаму за стварэнне на кінастудыі "Беларусьфільм" цыкла музычна-этнаграфічных фільмаў ("Палескія каляды", "Галасы вякоў", "Памяць стагоддзяў", "Палескія вяселлі", "Прасі, Божа, хмару", "Крывыя вечары").**

**У галіне выяўленчага мастацтва Дзяржаўная прэмія прысуджана мастаку Уладзіміру Тоўсціку за серыю жывапісных работ "Святло і цені" і трыпціх "Спадчына".**

*ГОРАДАБУДАВАННЕ*



Не раз ужо гаварылася і пісалася пра аднастайнасць нашых мікраранёў. А рэжысёр Эльдар Разанаў нават стварыў незабыўны фільм, зрабіўшы героя заложнікам гэтага горадабудаўнічага убоства. Ліквідаваць такое падабенства ў маштабах Магілёва ўзяліся архітэктары творчай майстэрні Уладзіміра Чаленкі. Яны рашылі надаць кожнаму мікраранёну індывідуальнасць. Нялёгка гэта, ды і будаўнікі не на "ўра" сустракаюць ідэю: дадатковыя матэрыялы, вялікія фінансавыя затраты, ды і фактар часу... Але, тым не менш, зрухі відавочныя. Там-сям з'яўляюцца ў Магілёве новыя незвычайныя збудаванні, якія робяць больш прыгожымі шэрыя мікраранёны.

Цяпер архітэктары майстэрні заняты "выпраўленнем" знешняга выгляду будынкаў у цэнтры горада, каля гасцініцы "Магілёў".

**НА ЗДЫМКУ:** кіраўнік майстэрні архітэктар Уладзімір ЧАЛЕНКА (злева) і яго калега Алег БАРАНОЎСКІ "чаруюць" над чарговым макетам.

*УНІВЕРСАЛЬНЫ ПАГРУЗЧЫК*



**Першыя ўзоры унікальных міні-пагрузчыкаў сабраны на Магілёўскім аўтазаводзе імя Кірава. Гэта вынік кантракта, заключанага з адной з нямецкіх фірм.**

**Як і чакалася, пакупніцкі попыт на новую прадукцыю вельмі высокі. Пагрузчык зможа выконваць больш дзесятка розных відаў работ. Гэтаму садзейнічае мноства навясных агрэгатаў. Аднак першынцы будуць забяспечаны пакуль толькі пяццю: захопам для сена, каўшом і адвалам для грунту, захопам для ўкладкі бардзюраў, шчоткай для ўборкі вуліц. У перспектыве пагрузчык "навучыцца" падстрыгаць газоны і кусты, валіць лес, бурыць глебу, выконваць многае іншае.**

**Асобую цікавасць да міні-пагрузчыка праяўляюць камунальныя службы.**

**НА ЗДЫМКУ: вадзіцель-выпрабавальнік Іван ЛАХАДЫРЫН і начальнік участка зборкі Мікалай БУЛІН рыхтуюць міні-пагрузчык да выпрабаванняў.**

*З ВІЛЬНІ*

## "БЕЛАРУСЬ" — ДЛЯ ЎСІХ

**У пачатку новага года на самым вялікім праспекце сталіцы Літвы -- Саванару адкрыўся Гандлёвы дом літоўска-беларускага прадпрыемства "Балтарусія--Беларусь". У ім прадпрыемствы і прыватныя асобы могуць арандаваць па даступнай цане гандлёвыя плошчы для рэалізацыі сваіх тавараў. У лютым тут намечана правесці шэраг выставак сучасных вырабаў беларускіх таваравытворцаў, пазнаёміць з імі літоўскіх пакупнікоў.**

**У далейшым плануецца выкарыстаць гэты камерцыйны цэнтр як гандлёвае прадстаўніцтва, дзе пастаянна будуць прысутнічаць тыя новыя і дабраякасныя тавары, якія можа пастаўляць на рынак Беларусь.**

*КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА*

## ІНКАСАТАР З МЯШКОМ ДОЛАРАЎ

**Трэцяга студзеня непадалёку ад Лагойска была абрабавана машына Віцебскага ўчастка інкасацыі, якая везла ў Мінск 1 мільён 495 долараў ЗША, 299 тысяч 970 нямецкіх марак, 230 тысяч фунтаў стэрлінгаў, 1 тысячу 40 французскіх франкаў, 1 тысячу 580 фінскіх марак, 50 канадскіх долараў. Злачынца -- інкасатар Шарэнда -- застрэліўшы свайго напарніка Фралкова, завалодаў машынай з грашыма і ўцёк у бок лесу. Праз некалькі гадзін злачынца загінуў у перастрэлцы з міліцыяй.**

*СЕНСАЦЫЯ*

## ЗНОЙДЗЕНЫ СКАРБ НАПАЛЕОНА

У вёсцы Гарадзечна Пружанскага раёна, дзе нядаўна адкрылася праваслаўная капліца ў гонар воінаў, якія загінулі ў 1812 годзе, -- сенсацыя. Тут выяўлены найбуйнейшы скарб Напалеона, які амаль два стагоддзі беспаспяхова адшуквалі археолагі.

Адкрыццё адбылося выпадкова, калі ў калгасе імя Дзяржынскага расшыралі свінагадоўчы комплекс і спатрэбілася правесці земляныя работы. Спецыялістам трэба яшчэ ўстанавіць сапраўдную вартасць знойдзеных прадметаў. Але ўжо цяпер, пасля папярэдняга агляду, зразумела, што каштоўнасць антыкварыяту вылічваецца сотнямі тысяч долараў.

*ВЫНІКІ ГОДА*

## НА ГРАНІЦЫ

Падведзены папярэднія вынікі аператыўна-службовай дзейнасці пагранічных войск Беларусі за 1994 год. Праз мяжу было прапушчана звыш 14 мільёнаў чалавек і больш 2,5 мільёна транспартных сродкаў. За год пагранічнікамі адабрана каля 50 кілаграмаў наркатычных сродкаў, больш 100 адзінак зброі і кантрабанды на суму звыш 33 мільёнаў рублёў. Затрымана каля 3 тысяч парушальнікаў мяжы, з якіх 1 300 -- прадстаўнікі краін афра-азіяцкага рэгіёна. У параўнанні з 1993 годам колькасць тых, хто спрабаваў перайсці мяжу незаконна, павялічылася ў два разы.

## АКАДЭМІК Іларыён ІГНАЦЕНКА:

# "ПРАФЕСІЯНАЛІЗМ – УЛАСЦІВАСЦЬ, ПАТРЭБНАЯ Ў ЛЮБОЙ СПРАВЕ"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

*-- Працэс станаўлення беларускай дзяржаўнасці, які адбываецца цяпер, праходзіць цяжка і складана. Каб стварыць штосьці вартае, неабходна ўлічваць вопыт папярэднікаў, іх дасягненні і памылкі. Хацелася б пачуць ваша меркаванне пра падзеі, звязаныя са станаўленнем беларускай дзяржаўнасці ў перыяд грамадзянскай вайны.*

-- Так, гэта былі сапраўды нялёгкія "роды" Беларускай рэспублікі. Ад першапачатковай Беларусі ў межах Віцебскай, Магілёўскай, Смаленскай губерняў і некалькіх паветаў Мінскай, бо заходнія тэрыторыі былі акупіраваны спачатку войскамі кайзераўскай Германіі, потым белапольскімі, праз Літоўска-Беларускую рэспубліку і нарэшце да таго ўсечанага нацыянальна-тэрытарыяльнага ўтварэння, якое было да 1939 года.

Гэта значыць, без заходніх Брэсцкай і Гродзенскай абласцей, аддадзеных Польшчы па мірнаму дагавору з савецкім урадам, і без Смаленскай вобласці, спрадвечнай беларускай зямлі, што ўвайшла ў склад Расіі. У дужках зазначу, што нашы суседзі-навазыбкаўцы, мае землякі, якія апынуліся ў цяперашняй Бранскай вобласці, і сёння лічаць сябе беларусамі (што б там ні сталася, як кажуць яны самі). Не буду доўжыць пералік адарваных беларускіх зямель. Не столькі ў гэтым справа. Асэнсоўваючы тагачасныя палітычныя працэсы, хочаш не хочаш, прыходзіш да высновы, што самі прадстаўнікі беларускага этнасу былі, як правіла, адхілены ад вырашэння свайго далейшага лёсу. Іх голас амаль не ўлічваўся і пры вызначэнні тэрытарыяльных граніц рэспублікі. Гэта першае.

Па-другое, людзі, якія вяршылі гэты лёс, уключаючы Леніна, абыякава ставіліся да беларускіх нацыянальных праблем. Правадыр узброенага паўстання пралетарыяту пад той час больш разглядаў беларускую зямлю ў якасці канала для экспарту рэвалюцыі ў Заходнюю Еўропу, бо лічыў, што рэвалюцыя ў Расіі не можа быць глыбокай па свайму характару, а з'яўляецца толькі запалам для сусветнай. І ролю носьбіта запалу мог адыграць Заходні фронт, калі ён яшчэ існаваў.

*-- Тады патлумачце, калі ласка, як быць з ленінскай высновай, якую ацэньвалі не інакш, як геніяльную, пра магчымасць ва ўмовах імперыялізму сацыялістычнай рэвалюцыі ў адной асобна ўзятай краіне?*

-- У вашым пытанні, калі разабрацца, іх два. Пачнём па парадку. Погляды на тую або іншую палітычную магчымасць могуць і павінны мяняцца разам са зменай гістарычных умоў. Нездарма Маркс папярэджваў, што яго вучэнне не догма, а кіраўніцтва да дзеяння. Дык вось, да таго часу Ленін ужо зразумеў і прызнаў, што сацыялістычныя рэвалюцыі не маюць будучыні. Дарэчы, і гэта ўжо другі аспект вашага пытання, Уладзімір Ільіч напачатку не называў расійскую рэвалюцыю сацыялістычнай, наадварот, ён заўсёды падкрэсліваў дэмакратычную сутнасць яе. Усё сказанае вы зможаце прачытаць і ў маёй новай кнізе.

*-- Але ж ні ў кога з нас, хто вучыў гісторыю па марксісцка-ленінскіх падручніках, ніколі не ўзнікала сумненняў у правільнасці і законнасці словаспалучэння "Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя". Яно, па-мойму, прыжылося і за мяжой.*

-- Хочаце ведаць, адкуль яно ўзялося? З кур'ёзнага выпадку. Неяк пасля аднаго з ленінскіх выступленняў нехта ў зале выгукнуў: "Жыве сацыялістычная рэвалюцыя!" Гэты покліч разнёсся па ўсёй Расіі, стаўся нейкім усеагульным паролем, атрымаў і афіцыйнае прызнанне.

*-- Сённяшні працэс пераходу да рынкавай эканомікі ў нечым нагадвае перыяд нэпа...*

-- Ваша заўвага вельмі дарэчы, каб прадоўжыць гаворку пра характар рэвалюцыі ў кастрычніку і пра наступныя падзеі ў бытнасць Уладзіміра Ільіча кіраўніком Саўнаркома. У 1920-м Ленін прыйшоў да канчатковага разумення, што рэвалюцыя ў Расіі была дэмакратычнай, што і лозунгі яе: "Заводы -- рабочым, зямля -- сялянам; прыгнечаным нацыям -- самавызначэнне; грамадзянскія свабоды і правы -- працоўным" -- патрабаванні дэмакратычныя. І, спачатку характарызуючы нэп як часовы адыход у эканоміцы на пазіцыі капіталізму, як надзейны спосаб аднаўлення разбуранай краіны і перадумовы будаўніцтва сацыялізму, Ленін у апошніх сваіх работах, большасць якіх была ўтоена аж да хрушчоўскай адлігі, адкрыта выказаўся, што нэп -- "гэта сур'ёзна і надоўга".

*-- Іларыён Мяфодзьевіч, ці не можаце вы правесці паралель ад тых часін у нашы дні? Маю на ўвазе пэўнае падабенства перабудовы ў эканоміцы, вядома, з папраўкай на сённяшнія ўмовы. Чаму Леніну, яго ўраду ўдалося хутка выцягнуць народную гаспадарку з разрухі, а мы ўжо дзесяць гадоў таўчом ваду ў ступе і скочваемся ў бездань галечы?*

-- Ленін -- фігура вельмі складаная. Чалавек уладны, жорсткі. Не без памылак, ён зрабіў іх нямала. Аднак меў смеласць і прызнаваць іх, не бянтэжачыся. Пэўна, ніхто не можа адмовіць яму і ў вялікіх інтэлектуальных здольнасцях, у здольнасці палітычнага манеўра. Да пары былі і яго паплечнікі. Годных рысаў яго характару, на жаль, не дадзена нашым кіраўнікам, якія зацыкліліся на нейкіх палітычных штампах -- і ні нагой убок. Хіба няма ў нашай краіне здольных, таленавітых кіраўнікоў? Вядома ж, ёсць: адно няма жадання прыцягваць іх да работы, парушаць замкнёнае наменклатурнае кола! Таму, калі бачым мы зрухі, дык пакуль толькі пад знакам "мінус"!

Акрамя таго, сённяшні кіраўнік знаходзіцца ў некалькі іншай, што называецца, сістэме каардынат. Змянілася краіна, змянілася грамадства, мяняецца менталітэт чалавека і г.д. Праўда, ёсць крытэрыі кіраўніцтва, што застаюцца канстантай на ўсе часы. У першую чаргу, прафесіяналізм. Уласцівасць, як кажуць, інварыянтная, патрэбная ў любой справе. Для кіраўніка яна азначае кампетэнтнасць, ініцыятыўнасць, уменне выслухаць і ацаніць прапанову падначаленага, клопат аб людзях, рашучасць у рэалізацыі задач.

*-- Іларыён Мяфодзьевіч, што б вы найперш зрабілі, калі б у вас была магчымасць стаць прэзідэнтам краіны?*

-- Перш за ўсё падзякаваў бы, а потым... адмовіўся. Бо, прымаючы гэты найвышэйшы дзяржаўны ранг, трэба быць адмыслова падрыхтаваным... Палітыка, як і навука, -- справа не экспромта, а штодзённай, штогадзіннай працы інтэлекту і душы. Не адмаўляю, вядома, і нечаканых здарэнняў, але яны прыходзяць якраз на падставе цяжкай працы розуму. У іншых выпадках экспромт навукоўца і палітыка, акрамя шкоды, нічога не дае.

*-- На першым з'ездзе народных дэпутатаў СССР у выступленні вядомага пісьменніка Чынгіза Айтматава прагучала цікавая заява пра тое, што ва ўсіх амаль краінах Заходняй Еўропы народы жывуць па прынцыпах сацыялізму. У магазінах багацце тавараў, ажыццёўлена марксісцкае выказванне пра наяўнасць вольнага часу як галоўнай меры грамадскага багацця, меры свабоды чалавека, высокая ступень сацыяльнай абароненасці людзей.*

-- Ну што ж, гэтага не даводзіцца адмаўляць. Сёння капіталізм ужо не той, што быў на пачатку і нават у сярэдзіне стагоддзя, пасля другой сусветнай вайны. Цывілізаваная рынкавая эканоміка зрабіла вялікія поспехі. Тым не менш думаецца, што сацыяльны прагрэс у Заходняй Еўропе адбыўся не без уплыву рускай рэвалюцыі. Яна падштурхнула яго, была тым каталізатарам, што прымусіў уладу маючых павярнуцца тварам да вырашэння вострых сацыяльных праблем, згладжвання антаганізмаў у грамадстве. Адсутнасць жа ідэалагічнай прадузятасці, што існавала ў нас, дазволіла ў нябачаных дагэтуль тэмпах развівацца навуцы, эканоміцы. Каб шматслоўна не даводзіць шкоду нашых ідэалагічных забабонаў, нагадаю адзін прыклад -- забарону ў СССР кібернетыкі, як быццам бы буржуазнай навукі. Ці можа быць тэхнічная навука, матэматыка, хімія буржуазнай? А падобныя ж глупствы тармазілі развіццё краіны.

А палітычныя памылкі, міфы пра пасляваенныя рэвалюцыі ў краінах Усходняй Еўропы, якія надоўга адрынулі ад нас многія мільёны нават былых прыхільнікаў СССР?! Нам час адмовіцца ад мноства старых уяўленняў, калі мы хочам стаць у шэраг развітых, цывілізаваных дзяржаў, заснаваных на праўдзе і сацыяльнай справядлівасці, павазе да чалавека, прызнанні яго свабод і правоў.

*-- Мне шкада, Іларыён Мяфодзьевіч, канчаць нашу гутарку. Было вельмі цікава пачуць вашы думкі, новыя ідэі, неардынарныя высновы. Віншую вас з юбілеем! Дай Божа вам творчай актыўнасці і даўгалецця.*

**Гутарыў з акадэмікам Раальд ЛЕВІН.**



## І ЗНОЎ КЛАСІКА!

**Мода блізкая да астралогіі. І тая, і іншая звернуты ў будучыню. Свой "прагноз" на лета наступнага года прадставіла ў сталічным доме мод на вуліцы Мельнікайтэ малады мадэльер-дызайнер Таццяна Собаль. Тут прайшла першая дэманстрацыя яе новай калекцыі адзення пад назвай "І зноў класіка".**

**У адрозненне ад большасці сваіх калег, якія імкнуцца арыентавацца ў сваіх пошуках на веянні заходняй высокай моды, Таццяне блізкія самабытныя традыцыі нашага народа, беларускія тканіны. Яна многа і цікава працуе з ільном. Мадэлі адзення з ільну, у прыватнасці, арыгінальныя паліто, якія Таццяна Собаль прадставіла нядаўна на кірмашы моды ў Польшчы, зрабілі там сапраўдны фурор. Не застаўся незаўважаным і паказ яе работ, які праходзіў мінулым летам у рамках фестывалю песні і паэзіі ў Маладзечне.**

**Адзін з галоўных прынцыпаў Таццяны -- прастата. Яна не з тых творцаў, хто робіць мастацтва дзеля мастацтва, а, у першую чаргу, арыентуецца на канкрэтнага спажыўца, каб прыдуманыя мадэлі можна было ўбачыць не толькі на дэманстрацыйным подыуме, але і на вуліцы. Гэтаму будзе садзейнічаць і створаная пры непасрэдным удзеле Таццяны Собаль фірма "Эксклюзіў ТСІ". Невялікія партыі "эксклюзіўнага" адзення ўжо пачалі паступаць у беларускія магазіны. Кожная мадэль будзе "растыражыравана" не больш, чым у дваццаці экземплярах. Так што магчымасць сутыкнуцца з прахожым-"блізнюком" практычна выключана.**

**Віктар КУКЛОЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: дэманстрацыя калекцыі адзення Таццяны СОБАЛЬ.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

*З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ*

## СУСТРЭЧА З МІНІСТРАМ ПОЛЬШЧЫ

Беласточчыну ў канцы мінулага года наведаў намеснік міністра Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы Міхал Ягела, які правёў з прадстаўнікамі мясцовых нацыянальных меншасцей сустрэчу. Як паведаміла беластоцкая "Газэта Вспулчэсна", мэтай яе было паінфармаванне ўспамянутых прадстаўнікоў аб прадбачаных у бюджэце краіны на 1995 год фінансавых сродках на падтрыманне культурна-асветных мерапрыемстваў таварыстваў і выдавецкай дзейнасці паасобных часопісаў.

Сустрэча прайшла ў зале Ваяводскай управы ў Беластоку. Апрача прадстаўнікоў беларускага, татарскага, украінскага і цыганскага асяроддзяў, прысутнічалі паслы ў сейм Сяргей Плева і Артур Смулко, намеснік ваяводы Г. Рыкоўскі, журналісты. З інфармацыі міністра вынікае, што на 1995 год у бюджэце краіны прадбачана на справы нацыянальных меншасцей 14 880 мільёнаў злотых. Падзелу гэтай сумы сярод нацыянальнасцей не падаў, а шкада. Паведаміў толькі, што беларускае асяроддзе атрымае 3 400 мільёнаў злотых, у тым ліку 1 400 мільёнаў -- рэдакцыя тыднёвіка "Ніва". Дадаткова прызнана 75 мільёнаў злотых на выданне веравызнаўчага часопіса "Пшэглёнд Праваслаўны" і на фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, на які сумы таксама не прывёў, але абнадзеіў, што міністэрства залічыла яго да катэгорыі мерапрыемстваў найвышэйшага рангу, роўнага Шапэнаўскаму конкурсу, і таму на яго арганізацыю "сродкаў не забракне". Прыемныя гэта весткі.

Але асталіся не заўважанымі ў інфармацыі міністра беднае БГКТ у Беластоку і Грамадскі камітэт пабудовы музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы. Прычыну коратка пракаменціраваў беластоцкі "Кур'ер Поранны" так: "Віцэ-міністр лічыць на (іх) самастойнасць і прадпрымальнасць... Сама назва "таварыствы" да нечага забавязвае". На сваю дзейнасць ужо ад некалькіх гадоў ні беларускае таварыства, ні камітэт не атрымліваюць грошай. Невялікія сумы прызначае яно на "дафінансаванне мерапрыемстваў". У 1995 годзе БГКТ з прадбачаных 80 імпрэзаў будзе мець гэтае дафінансаванне 3, а ўсе астатнія трэба арганізаваць за жабрачыя сродкі. Калі іх не атрымае, мерапрыемствы тыпу рэцытатарскіх конкурсаў, аглядаў аматарскіх і фальклорных калектываў, аўтарскіх сустрэч, новых кніжных выданняў не праводзе. Сумная гэта будучыня.

Праблемы гэтыя знайшлі ў дыскусіі найшырэйшы водгук. Кожны з забіраючых на сустрэчы голас прамоўцаў бараніў, аднак, сваю ўстанову або тую з іх, якой спачувальнікам з'яўляецца ад некалькіх гадоў. У такіх абставінах ад уладаў нічога іншага, апрача таго, што яны самі прадугледзелі, дабіцца немагчыма.

**У. ЮЗВЮК.**

Беласток.

БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ І АЧАРНЕННЯ

# ЯК СЛУЧАКІ БАРАНІЛІ СВОЙ ДОМ

Высвятленне гісторыі, на мой погляд, лепш пачаць з трагічнага фіналу жыцця Паўла Чайкі. Сумны канец адлюстроўваюць наступныя дакументы:

"Заключение от 7 января 1921 г. военследователя Особого отдела ВЧК при РВС 16-й армии (прозвішча следчага): виновен и расстрелять".

* * *

"Выписка из заседания тройки Особого отдела 16-й армии. 7 января 1921 г. П. Чайка обвиняется в измене Советской власти и организации белогвардейского полка. Приговаривается к высшей мере наказания. Начальник ОО Ольский" (Хутка Ян Ольскі зойме пасаду старшыні ЧК Беларусі. -- **Н.С.**).

**Начальнику ОО 16-й армии**
**Рапорт**

Доношу, что согласно предписанию Вашего от 8 января с.г. и постановлению "тройки" Особотдела от 7 января с.г. о расстреле Чайко Павла Петровича, 31 года за преступления против Советской власти, последнее приведено в исполнение 9 января с.г. в 3 часа ночи. 9 января 1921 г."

Вось як нечакана павярнуўся лёс. Здрадзіў адным, расстралялі другія, але за тое ж самае -- за здраду. Справа "па абвінавачванню Чайкі Паўла Пятровіча ў службе ў арміі Слуцкай Беларускай Рады" (такую назву мае дакумент) змясцілася ўсяго на 18 аркушах. Час быў ваенны, следчыя ЧУ шмат не пісалі. Але ж тое-сёе з жыцця Паўла Чайкі можна даведацца, дарэчы, большая частка дакументаў напісана ім уласнаручна.

Нарадзіўся 21 чэрвеня 1889 года ў вёсцы Лютавічы Вызнянскай воласці Слуцкага павета. Сялянская сям'я з 6 чалавек мела ўсяго 12 дзесяцін зямлі. Тры з іх выдзелілі Паўлу, калі ён ажаніўся. У пошуках лепшай долі сям'я яшчэ да пачатку першай сусветнай вайны апынулася на Далёкім Усходзе. У 1909 годзе Павел вытрымаў іспыты за 6 класаў гімназіі ва Уладзівастоку. Праз тры гады скончыў Іркуцкую вайсковую вучэльню. Да вайны служыў у Херсоне і Варонежы. У час першай сусветнай вайны афіцэр сувязі. За баявыя заслугі быў узнагароджаны ордэнамі 4-й і 3-й ступені Ганны, 3-й ступені Станіслава і 4-й -- Уладзіміра. Даслужыўся да чыну штабс-капітана. На фронце быў абраны членам салдацкага камітэта корпуса. Пасля развалу старой расійскай арміі вярнуўся дамоў, у Лютавічы, маючы пэўны багаж палітычных поглядаў (і, трэба дадаць, як той бязладны час, даволі няўстойлівых і хаатычных). Чайка сведчыў, што належаў да партыі эсэраў, але напрыканцы 1918 года выйшаў з яе радоў, аб чым паведаміў праз газету "Бядняк". Гэты крок можна зразумець. У той час ён служыў памочнікам Слуцкага ваеннага камісара (пры чырвоных), пачаў схіляцца да бальшавікоў. Тым не менш, з прыходам палякаў у Чырвонай Арміі не застаўся, як большасць случакоў, дэзерціраваў. Следчаму свае паводзіны тлумачыў працяглай хваробай на тыф. Але зазначу, што гэтая прычына дэзерцірства знайшлася амаль ва ўсіх, хто не хацеў адступаць з Чырвонай Арміяй. 19 лістапада 1920 года Павел Чайка быў мабілізаваны Слуцкай радай. Па 27-е лістапада займаўся фарміраваннем палка. У Асобаддзеле Чайка сведчыў, што ў брыгаду пайшоў не добраахвотна, а пад пагрозай быць інтэрніраваным у польскі лагер для ваеннапалонных. Ці быў ён шчырым, калі гаварыў гэта следчаму? Хутчэй за ўсё -- шукаў змякчаючыя "віну" акалічнасці.

Адразу пасля Слуцкага з'езда Чайка ўвайшоў у склад ваеннай тройкі (Жаўрыд, Анцыповіч, Чайка), якая мела задачу ў сціслыя тэрміны вырашыць пытанне аб стварэнні войска. Ці можна быць ініцыятарам і арганізатарам пад прымусам? Чэкісты і не паверылі, асудзілі за "арганізацыю белага войска".

Мне здаецца, што ўсю справу, як афіцэр Беларускай брыгады, Павел Чайка выконваў добраахвотна і свядома. Намаганнямі Слуцкай рады, арганізатараў войска і яго сфарміраваўся Слуцкі полк. 22 лістапада ўсе камандзірскія пасады былі размеркаваны і аб'яўлены загадамі па брыгадзе. Справа ладзілася.

Але адсутнасць адзінства ў складзе Слуцкай рады, наяўнасць дзвюх плыняў -- балахоўскай (паланафільскай) і эсэраўскай (незалежніцкай) -- у кіраўніцтве паўстаннем, нават у штабе брыгады, дзе большасць складалі афіцэры-балахоўцы, дэзарыентавала людзей, сеяла разгубленасць, выбівала грунт з-пад ног. Кожная з груповак прэтэндавала на верхавенства. І адны, і другія шукалі падставу, каб высветліць адносіны і скончыць з хісткім двоеўладдзем. Паланафільскі бок на чале са слуцкім доктарам Арсенем Паўлюкевічам поспех паўстання спалучаў з дапамогай польскіх улад. Зазначу, што ў той час пазіцыя гэтых людзей, у большасці сваёй ваенных, мела пэўны грунт. Прыхільнікі цеснага саюза з ваеннымі коламі Польшчы тлумачылі свой пункт гледжання на падзеі тым, што шукаюць дапамогу ў таго народа, "які толькі нядаўна сам здабыў сабе вольнасць, таксама змагаўшагася з бальшавікамі, якія хацелі пазбавіць яго гэтай вольнасці; таго народа, які вуснамі свайго нацыянальнага Правадыра (Пілсудскага. -- **Н.С.**) загаварыў з беларускім народам, як з роўным". ("Грамадскі голас", 1925, 10 снежня). Хто вельмі хацеў гэтым разважанням верыць, той верыў. Супрацьлеглы бок -- у асноўным слуцкія эсэры -- стаяў на цвёрдых незалежніцкіх пазіцыях: ні паноў, ні камуністаў.

На жаль, гэтая непрымірымая канфрантацыя вельмі адмоўна адбілася як на выніках паўстання, так і на лёсе асобных людзей. Першымі рассячы вузел праблемных адносін з эсэраўскай вярхушкай Слуцкай рады паспрабавалі балахоўцы. Начальнік контрразведкі паручнік А. Міпановіч затрымаў ліст камандзіра Слуцкага палка Паўла Чайкі да былога супрацоўніка і сябра, ваенкома Вызнянскай воласці Кастуся Кецка, эсэра, дарэчы. На жаль, галоўны дакумент, ліст Чайкі, які б пацвердзіў яго віну ці зняў яе, не знойдзены. Наконт зместу ліста існуе некалькі версій.

Ніна **СТУЖЫНСКАЯ**.

**Працяг.**
**Пачатак у № 50—52 (1994 г.), №1.**

# З КАЛЯДАМІ! З НОВЫМ ГОДАМ!

**Прыміце ад беларусаў Малдовы шчырае віншаванне са святам Каляд і Новым, 1995 годам. Хай ваша газета і надалей будзе для нас праўдзівым голасам маці-Радзімы, нашай любай Беларусі.**

**Старшыня Рады беларускай Грамады ў Рэспубліцы Малдова**
**Уладзімір ДЗЯРЖЫЦКІ.**
Малдова.

**Дасылаю мае віншаванні з надыходзячымі Калядамі і Новым годам.**
**Зычу супрацоўнікам і чытачам "Голасу Радзімы" шчасця, моцнага здароўя, поспехаў ва ўсіх справах.**
**Жыве Беларусь!**

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг.**
Украіна.

**Шаноўны спадар рэдактар!**
**Дарагі "Голас Радзімы"!**
**Вясёлых Калядаў ды памыснага новага года! Усяго найлепшага сардэчна зычу з далёкай Лапландыі.**

**Андрэвуш ШПУРА.**
Расія.

**Хутка Новы год, з якім я хацеў бы вас павіншаваць і пажадаць усяго лепшага як у працы, так і ў жыцці. Не так даўно я пачаў атрымліваць вашу газету, але ў мяне ўжо склалася свая думка аб ёй: "Голас Радзімы" -- тая газета, што патрэбна мне. Яна цікавая сваёй разнастайнасцю, паведамляе пра жыццё Беларусі, яе цяжкасці і радасці, адраджэнне і культуру.**
**Дзякуй вам усім за вашу цяжкую і вельмі патрэбную працу.**
**З надыходзячым 1995-м годам!**

**Алесь ТРАФІМЕНКА.**
Украіна.

**Дарагім журналістам і чытачам "Голасу Радзімы" перасылаю навагоднія віншаванні і найлепшыя пажаданні.**
**Зычу прыгожага калядавання на Хрыстова Нараджэнне, а ў новым, 1995-м годзе -- мірнага неба, спакою ў Беларусі, супрацоўнікам "Голасу Радзімы" -- творчай працы і ўдзячнасці чытачоў.**

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК.**
Польшча.

**Віншую ўсіх-усіх з Нараджэннем Хрыстовым і Новым, 1995-м годам!**
**Ад шчырага сэрца жадаю лепшага ў вашым жыцці, а найбольш і наймацней -- каб усё ішло добра і ладам у маёй роднай Беларусі.**

**Леанарда МАЛЕЕВА.**
Італія.

**Сардэчна віншую калектыў рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" з Новым годам!**
**Жадаю далейшых творчых поспехаў, здароўя і шчасця!**
**Беларусі, якая абвясціла сябе незалежнай дзяржавай, жадаю вялікіх дасягненняў у развіцці эканомікі і культуры, а асабліва плёну -- у распаўсюджанні цудоўнага беларускага слова.**

**Юры РАСАДЗІНСКІ.**
Аўстралія.

**Вясёлых Калядных свят, шчаслівага і лепшага новага года жадае ўсёй рэдкалегіі "Голасу Радзімы".**

**Алесь ГАТКОВІЧ**
**і яго сябры --**
**беларусы ў Англіі.**
Вялікабрытанія.

**Мае дарагія!**
**Жадаю вам усім вясёлых свят, Божага Нараджэння ды шчаслівага і памыснага новага года. Нізкі паклон усім.**

**Прыгожыя лясы,**
**Белыя сцягі,**
**Цудоўны народ --**
**Гэта мая Радзіма,**
**Па якой баліць маё сэрца**
**І агортвае туга.**
**З Новым годам,**
**мая Беларусь!**

**Лідзія ПІНЧУК.**
Іспанія.

**Дарагія сябры!**
**Ад шчырага сэрца віншуем вас з Калядамі і Новым, 1995 годам!**
**Жадаем вам шчасця, радасці і поспехаў у працы.**
**Выказваем вам вялікую ўдзячнасць за дапамогу ў нашай радыёперадачы.**

**Вольга ГАЛАВАШКІНА,**
**карэспандэнт**
**Эстонскага радыё.**
Эстонія.

**Паважаныя землякі!**
**Віншую вас з Новым годам і жадаю ўсялякага дабра, моцнага здароўя і веры ў лепшае.**
**Няхай над маёй Радзімай зззяе мірнае сонца, зычу шчасця і спакою ўсім.**
**У навагоднюю ноч я падніму свой келіх за здароўе маіх дарагіх далёкіх землякоў.**
**Віват, Беларусь!**

**А.БЕНЕДЗІКТОВІЧ.**
Татарстан.

**Паважаны рэдактар!**
**Вітаю Вас са святам Нараджэння Хрыстова. Жадаю благаслаўёнага новага года!**
**Мне ўжо трохі цяжка чытаць, бо маю слабыя вочы, але міла і прыемна мець вестачкі пра родныя дарожкі і пачуць родную мову хоць праз паперу, г.зн. з газеты "Голас Радзімы". А таму пасылаю чэк на 100 канадскіх долараў, каб падтрымаць "Голас Радзімы" ў 1995 годзе.**

**Таня КУЦ.**
Канада.

**Дарагая рэдакцыя "Голасу Радзімы", вельмі паважаны рэдактар спадар Вацлаў Мацкевіч!**
**Віншуем вас са святамі Каляд, Нараджэння Хрыстова і Новага, 1995 года. Зычым вам моцнага здароўя, шчасця ў сям'і і плёну на ніве адраджэння нашай Бацькаўшчыны.**
**Латвійскае таварыства беларускай культуры "Сьвітанак" вельмі ўдзячнае вам за бескарыслівую пастаянную дасылку вашай газеты, якая стала, як і "ЛіМ", на пазіцыю нацыянальнага адраджэння і незалежнасці нашай Беларусі.**

**Старшыня Рады ЛТБК "Сьвітанак"**
**Сяржук КУЗНЯЦОЎ,**
**намеснік старшыні Рады ЛТБК "Сьвітанак"**
**Вячка ЦЕЛЕШ.**
Рыга.

**Калектыву рэдакцыі "Голасу Радзімы" -- нашы віншаванні і добрыя зычанні з нагоды Божага Нараджэння і Новага года.**
**Хай 1995-ты год будзе для Беларусі шчаслівым і памысным!**
**Дапамагайце ўсведамляць, што мы, беларусы, -- адметны народ, што нам ёсць чым ганарыцца. Беражыце нашу незалежнасць!**

**Сымвэстар**
**і Каталін БУДКЕВІЧЫ.**
Англія.

# З КАЛЯДНЫХ УСПАМІНАЎ

Зноў Каляды, зноў, як заўсёды, беларусы, што жывуць у гарадах Брэдфард і Лідс, а таксама з бліжэйшых суседніх ваколіц сабраліся ў беларускім доме ў Брэдфардзе, каб разам славіць дзень Нараджэння Хрыстова.

Каляды -- гэта свята сямейнага шчасця. Свята Надзеі, Веры і Любові. У гэты вялікі дзень усе людзі сабе прабачаюць, усе сваркі, нязгоды знікаюць. Цэлы хрысціянскі свет аб'яўляе надзвычайную радасць, славіць народзіны Божага дзіцятка.

І як жа міла і прыемна быць у беларускай грамадзе, якая ў гэты вялікі дзень адной думкі, адной ідэі. Адзін аднаму падае руку і жадае вясёлых свят. У залі вялікія сталы, накрытыя святочнымі абрусамі, якія амаль угінаюцца ад добра выбранай і падрыхтаванай ежы. Не бракуе тут і віна, і піва. На другім баку залі асобны стол, за якім, як агеньчыкі, мільгаюць вочы шчаслівай дзетвары, што нецярпліва з-пад ілба паглядае ў бок Дзеда Мароза, які пачаў мітусіцца з агромным мяшком, напоўненым падарункамі.

Задумаешся, і неяк сэрца сціскаецца з болю. Здаецца, не так даўно і ты быў такім маленькім дзіцем і нецярпліва чакаў прыходу Дзеда Мароза. Пазней, стаўшы падлеткам, ты ішоў з зоркай у руках у марозную ноч, супраць вятроў і снежных завеяў, каб славіць Каляду. Снег рыпеў пад нагамі, а ты ішоў ды ішоў ад хаты да хаты, не чуючы ні холаду, ні стомы. Святочнаму настрою не было канца. Здавалася, не толькі людзі, але дрэвы і хаты адчувалі гэтае свята ды прыбраліся ў святочную вопратку -- у белую пушыстую світку... Прамоўцы жадаюць усім вясёлых свят і падносяць угору напоўненыя чаркі віна. Чуецца звон паднятых чарак, і ты спакваля варочаешся да рэчаіснасці, і неяк табе робіцца сумна. Быццам бы нехта ці нешта сціскае тваё сэрца, быццам нечага табе не хапае, табе хочацца, але ты яго не зможаш асягнуць. Галава пачынае шумець, і ты не ведаеш, ці ад хмелю віна, ці ад успамінаў далёкага мінулага, але так дарагога твайму сэрцу. Словы каляднае песні: "Пашлі годы шчаслівыя ўсім верным хрысціянам" напаўняюць душу нейкай радасцю ды падмацоўваюць надзею...

На другой палове залі наша дзетвара і моладзь аж заходзяцца ад песняў ды танцаў. Ім весела. Яны рады гэтаму дню. Яны яго так доўга чакалі...

Тым часам Калядны вечар у вясёлай атмасферы набліжаецца да канца. Зноў адзін аднаму падаюць руку ды жадаюць шчаслівага новага года. Развітаўшыся з усімі, ты зноў адзін ды крочыш павольнай хадой насустрач заўтрашняму шэраму дню... І хаця снег не рыпіць пад тваімі нагамі, хаця ты не бачыш тых утульных хат, пакрытых пушыстым снегам, хаця ты не чуеш галасоў тых калядоўшчыкаў, але ты неяк чуешся бліжэй да сваіх родных. Мо таму, што ў гэту калядную ноч і яны аб табе думаюць, і там за накрытым белым абрусам сталом ёсць адно пустое месца... Яны жадаюць табе хуткага павароту, сустрэчы... Ты, крочачы, раз ці два падымаеш галаву ўгару, углядаешся ў серабрыстыя зоркі ў небе і разам з зухвацкім ветрам пачынаеш напяваць:

**І калі толькі яны, родныя, не спяць,**
**І на іх таксама зорачкі глядзяць,**
**Занясіце ж, пакуль заблысне свет,**
**Зоркі мілыя, бацькам маім прывет...**

**А.ГАТКОВІЧ.**
Англія.

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

289

**ПАТРЫЯТЫЧНАЕ КРЫЛО ПРАМАСКОЎСКАЙ АДМІНІСТРАЦЫІ.** На працягу 20-х гадоў у партыйна-савецкіх органах БССР ішла безупынная барацьба дзвюх груповак -- беларускай і "інтэрнацыяналісцкай" (імперскай). У 1926 годзе гэтая барацьба абвастрылася ў Полацку, дзе беларускія нацыянал-камуністы гуртаваліся вакол Алеся Адамовіча. Яны выказвалі незадаволенасць бяздзейнасцю А.Чарвякова. Пазней Алесь Адамовіч даведаўся аб прычыне. Заняўшы пасаду загадчыка аддзела друку ЦК КП(б)Б, ён зразумеў, што за Чарвяковым сачылі з органаў бяспекі па загаду сакратара рэспубліканскай арганізацыі камуністаў Крыніцкага.

**ПЕРАХОД ДА РЭПРЭСІЙ.** З канца 20-х гадоў маскоўскае кіраўніцтва, набраўшы моц, пачало пераходзіць да больш жорсткіх метадаў кіравання нацыянальнымі правінцыямі. Яны адразу ж узяліся за тэрор, бо адчулі небяспеку згубіць уладу. Пасля разрыву ў 1927 годзе дыпламатычных адносін з Англіяй Масква асцерагалася, што вялікабрытанская карона падтрымае Польшчу ў яе барацьбе за Усходнюю Беларусь і Усходнюю Украіну. Беларускім нацыянальным кадрам не даравaліся нават дробязі. Гаспадары з цэнтра не маглі забыць, што на мінскай акадэмічнай канферэнцыі 1926 года адсутнічаў партрэт Леніна. Летам 1929 года ў Мінску пабываў маскоўскі рэвізор Затонскі. Яму не падабалася, што ў падручніках, якія напісалі гісторык У.Ігнатоўскі і географ А.Смоліч, ніякага марксізму не было, што З.Жылуновіч абараняе нацыянальную культуру,

290

што А.Чарвякоў прадстаўляе да ўзнагароды ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга артыста Ждановіча і прафесара Эпімах-Шыпілу як піянераў беларускай справы, што беларусы надта носяцца з Янкам Купалам -- пра яго ў школах усе ведаюць, а пра Леніна -- не.

Гэтымі падзеямі і завяршалася палітыка беларусізацыі. Першачарговы ўдар скіроўваўся супраць носьбітаў беларускай незалежніцкай ідэі. Гульня маскоўскіх захопнікаў у дзяржаўную суверэннасць Беларусі канчалася. Браўся курс на поўнае падпарадкаванне нацыянальных ускраін цэнтру.

Спачатку пайшло ганьбаванне нацыянальных дэмакратаў (нацдэмаў). Яно павінна было скончыцца, па задуме з цэнтра, выкрыццём -- а ў сапраўднасці фабрыкацыяй -- нацыяналістычных, антысавецкіх арганізацый і судом над іх членамі, як над ворагамі народа. Пад практычную задуму падводзілася і тэарэтычнае абгрунтаванне. Тэрмін "нацыянал-дэмакратызм" меў раней пазітыўны змест і азначаў барацьбу за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне народаў. Аднак з другой паловы 20-х гадоў нацыянал-дэмакратызм стаў азначаць нацыянал-шавінізм і нават нацыянал-фашызм. Хутка ён ператварыўся ў адзнаку выключна беларускага нацыяналістычнага ўхілу. Нацдэмы абвінавачваліся ў імкненні да адрыву БССР ад СССР і далучэнні да Польшчы. Іх сацыяльнай асновай аб'яўлялася заможнае сялянства.

У сувязі з гэтым увесь беларускі нацыянальна-вызваленчы рух, пачынаючы ад К.Каліноўскага і канчаючы беларускімі секцы-

291

ямі РКП(б), адносіўся да рэакцыйнай плыні.

**РЭПРЭСІІ 1929--1934 ГАДОЎ.** На кіруючыя пасады ў БССР Масква пачынае назначаць адданых сабе людзей: К.Гей заняў пасаду кіраўніка КП(б)Б, а І.Рапапорт узначаліў галоўны карны орган -- рэспубліканскі Аддзел дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (АДПУ). Спачатку накінуліся на старшыню ЦВК БССР А.Чарвякова, але яму ўдалося адстаяць сябе. На чарзе былі прэзідэнт АН БССР У.Ігнатоўскі і першы савецкі прэм'ер-міністр Беларусі З.Жылуновіч. Іх звольнілі з працы і выключылі з партыі. 4 лютага 1931 года У.Ігнатоўскі застрэліўся.

Апагеем барацьбы з нацыянал-дэмакратызмам стаў надуманы судовы працэс над членамі контррэвалюцыйнай арганізацыі "Саюз вызвалення Беларусі" (СВБ). У 1931 годзе за прыналежнасць да яе пастановай калегіі АДПУ было асуджана 90 работнікаў навукі, мастацтва, савецка-партыйнага апарату. 80 з іх атрымалі высылку з Беларусі тэрмінам на 5 год, а 10 чалавек -- дзесяцігадовы тэрмін у канцлагеры. Сярод пакараных былі нарком асветы А.Баліцкі, нарком земляробства З.Прышчэпаў, намеснік дырэктара Дзяржвыдавецтва П.Ільючонак, віцэ-прэзідэнт Беларускай акадэміі навук С.Некрашэвіч, акадэмікі В.Ластоўскі, Я.Лёсік, А.Смоліч, Г.Гарэцкі, яго брат М.Гарэцкі, гісторык А.Цвікевіч. Сярод пацярпеўшых былі сябры літаратурнага аб'яднання "Узвышша" (Адам Бабарэка, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча), да якога не належаў ніводзін камуніст. Пакаранне было адносна мяккім. Маладыя паэты

292

не прызналіся ні ў чым. Сталіністы яшчэ сумняваліся ў сваёй сіле, баяліся супраціўлення. Самагубства У.Ігнатоўскага і замах на сваё жыццё Янкі Купалы (лістапад 1930), якога прымушалі выступіць асноўным сведкам абвінавачвання, прымусілі карнікаў не даводзіць "справу СВБ" да ўсеахопнага маштабу. Але ў 1937 годзе амаль усе, хто па ёй праходзіў, былі асуджаны паўторна да вышэйшай меры.

Адначасова рэпрэсіі абрынуліся і супраць яўрэйскай і польскай інтэлігенцыі, супраць ксяндзоў. У 1929--1930 гадах за межы БССР было выслана больш за 1 500 польскіх сем'яў. Праўда, далей пачаліся ўступкі. Зноў адкрываліся польскія школы, арганізоўваліся сельсаветы. У 1932 годзе Дзяржынскі раён аб'явілі польскім (у палітычных мэтах). Аднак пасля бальшавіцкай чысткі ён выглядаў, як пасля эпідэміі чумы. На пустуючых землях не было каму працаваць.

Першая рэпрэсіўная хваля 1929--1931 гадоў змянілася другой -- 1933--1934 гадоў. На гэты раз разглядалася справа так званага "Беларускага нацыянальнага цэнтра". Да яго "прышылі" вядомых дзеячаў заходнебеларускага нацыянальна-вызваленчага руху, якіх хапалі як польскіх шпіёнаў. Працягвалася барацьба з "засмечваннем" нацдэмамі дзяржаўных устаноў. Партыя бачыла галоўную небяспеку для сябе ў мясцовым нацыяналізме. Пра вялікадзяржаўны нацыяналізм гаварыць перасталі.

**АБЕЗГАЛОЎЛІВАННЕ НАЦЫІ.** Адукаваную, нацыянальна свядомую інтэлігенцыю, якая фарміравалася яшчэ па-за камуністычным цем-

293

рашальствам, удалося вынішчыць. Яна несла пагрозу для дыктатарскага рэжыму бальшавікоў, але была такой неабходнай для зберажэння нацыянальнага жыцця беларускай нацыі. Нейкі час нацыянальным дзеячам, адрынутым ад радзімы, удавалася захоўваць беларускія культурныя асяродкі за межамі БССР. У Маскве з 1926 года працаваў Беларускі цэнтральны рабочы клуб пры ўдзеле паэта Дубоўкі, пісьменніка Лужаніна, цымбаліста Жыновіча. У Ленінградзе тады ж адкрыўся Беларускі дом асветы, які наведвалі гісторык Шлюбскі, брат Усевалада Ігнатоўскага -- хормайстар Мікалай Ігнатоўскі, загадчык Беларускага аддзела Ленінградскага этнаграфічнага музея Супінскі. Але і гэтыя ўстановы ў 1935--1936 гадах закрыліся.

**ФАРМІРАВАННЕ ТАТАЛІТАРНАЙ СІСТЭМЫ.** Ліквідацыя нацдэмаўшчыны была першым вопытам масавых рэпрэсій на Беларусі. Пасля гэтага рэпрэсіўная машына ўжо безупынна ўдасканальвалася і набірала абароты. Увогуле, рэпрэсіі ажыццяўляліся камуністамі не на нацыянальнай, а на ідэалагічнай, дактрынальнай аснове. Яны выраcталі з камуністычнай ідэі аб існаванні ўсё ўзрастаючай класавай барацьбы паміж народнымі масамі і вярхамі грамадства (буржуямі, капіталістамі і іх памагатымі). Такая тэорыя давала вельмі зручную падставу ад імя народа распраўляцца з любымі палітычнымі праціўнікамі партыйнай дыктатуры, у тым ліку і з прадстаўнікамі нацыянальна-вызваленчага руху.

У пачатку 30-х гадоў камуністычныя партый-

294

ныя структуры набылі дзяржаўныя функцыі. Тады ж у партыі зацвердзіўся і прынцып цэнтралізму -- безумоўнага падпарадкавання ніжэйшых арганізацый вышэйшым. Стварaўся механізм дыктатуры камуністычнага лідэра, якім у той час быў Сталін. Прававых структур супрацьдзеяння дыктатару ў бальшавіцкай імперыі не існавала. Малаадукаваным і не прывучаным да дэмакратызму расійцам патрабаваўся новы добры "цар". Імідж народнага правадыра, "бацькі" і стварaўся ідэалагічнымі службамі камуністаў вакол Сталіна. Яго абсалютнай уладзе мог пазайздросціць любы дэспат сярэднявечнага Усходу.

Да паслуг дыктатара быў надзейны карны апарат. З часоў грамадзянскай вайны дзейнічалі папраўча-працоўныя лагеры. У пачатку 30-х гадоў утварыўся пазасудовы орган -- Асобая нарада АДПУ (1934 год). У адпаведнасці з пастановай супраць тэрарызму (1 снежня 1934 ), тэрмін вядзення следства абмяжоўваўся 10 днямі, справы разглядаліся без удзелу пракурора і адваката, падача хадайніцтваў аб памілаванні не дазвалялася, смяротны прыгавор выконваўся неадкладна. У верасні 1937 года такі ж парадак уводзіўся па справах аб шкодніцтве і дыверсіях, што дазволіла выкарыстоўваць яго да любога падсуднага. У 1935 годзе смяротнае пакаранне распаўсюджвалася на дзяцей з 12 гадоў. Пры палітычных абвінавачваннях людзей расстрэльвалі без суда і нават па спісках. У 1937 годзе Сталін ад імя ЦК ВКП(б)Б дазволіў органам НКУС біць і катаваць падсудных. Для пракурора СССР Вышынскага галоўным і рашаючым дока-

295

зам віноўнасці з'яўлялася прызнанне самога абвінавачваемага. Сталінскім катам заставалася толькі "выбіць" такое прызнанне любым коштам.

Карны апарат не падпарадкоўваўся ні Саветам, ні партыйным арганізацыям, а толькі Сталіну. Адной з важнейшых функцый гэтага апарату стаў падбор кадраў. Беларускія нацыянал-камуністы для маскоўскіх захопнікаў ужо не падыходзілі. Яны вынішчаліся, а на іх месца прысылаліся паслухмяныя Маскве кіраўнікі з усіх куткоў імперыі, якіх мала клапацілі інтарэсы беларусаў. Мясцовая адміністрацыя фарміравалася з чужынцаў і дэнацыяналізаваных мясцовых люмпенаў. Былыя жабракі і малапісьменныя людзі раптам узляталі з дапамогай маскоўскіх бальшавікоў на самыя высокія пасады. У пачатку 30-х гадоў 3/4 кіраўнікоў БССР мелі толькі пачатковую адукацыю і ніжэй. Натуральна, што такія мясцовыя пралетарскія кадры станавіліся адданымі рабамі сваіх гаспадароў і надзвычай жорсткімі катамі ў дачыненні да свайго народа. Яны ўсё жыццё дзякавалі партыі, якая адкрыла ім дарогу да шчасця. І было за што, бо ў нармальным грамадстве шэрыя і непісьменныя людзі не займаюць кіруючых пасад.

## 29.2. Прамысловы прэс і побыт гараджан

**ПЕРАХОД ДА БАЛЬШАВІЦКАЙ ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ.** Новая эканамічная

296

палітыка вяртала бальшавіцкую імперыю да натуральнага гаспадарчага развіцця, але не магла імгненна вывесці на ўзровень перадавых дзяржаў свету. Гэта не задавальняла бальшавікоў. Каб дыктаваць волю іншым краінам і ўцягваць іх у сусветную сацыялістычную рэвалюцыю, савецкая імперыя павінна была мець адпаведную эканамічную і ваенную магутнасць. Існавала неабходнасць стварэння буйной вытворчасці. Яе можна было выкарыстаць і для ўмацавання цэнтральнай улады: дзяржава забірае ў свае рукі прамысловыя гіганты, а дробных прадпрымальнікаў разарае. Таму з 1925 года камуністычнае кіраўніцтва СССР узяло курс на індустрыялізацыю, а з канца 20-х гадоў пачало яе фарсіраванне.

**НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ ГВАЛТОЎНЫХ МЕТАДАЎ.** Патрабаваліся велізарныя капіталаўкладанні, а яны ў аграрнай імперыі адсутнічалі. Сродкаў, атрыманых ад рабавання фабрыкантаў і паноў ды ад скасавання дзяржаўных пазык, не хапала. Дзяржава абкладвала сялян непасільнымі прамымі і ўскоснымі падаткамі, заніжала цэны на сельскагаспадарчыя тавары і завышала на прамысловыя. У 1932 годзе карова каштавала 50 рублёў, а звычайныя боты -- 62 рублі. Але і перапампаваных з вёскі грошай было мала. З 1927 года па ўсёй краіне пачала праводзіцца штогадовая масавая падпіска насельніцтва на ўнутраныя пазыкі індустрыялізацыі -- спачатку добраахвотна, а потым прымусова, пад наглядам прафсаюзаў. Але і гэта крыніца хутка аслабла. Тады на вялікіх сталінскіх будоўлях пачалі выкарыстоўваць вязняў.

*ДА 230-годдзя Міхала Клеафаса АГІНСКАГА*

# ВЯЛІКІ ГРАМАДЗЯНІН І ТВОРЦА

Пасля задушэння паўстання Агінскі з чужымі дакументамі паехаў у Вену. Небяспека, якая пагражала яму, з'явілася прычынай таго, што ён нават там не мог адкрыць сваё імя, з-за чаго, як сведчыць І.Бэлза, "стары князь Чартарыскі вымушаны быў з мэтай канспірацыі абвясціць венскай знаці, што княгіня Агінская, якая заўсёды вылучалася бездакорнымі паводзінамі, здрадзіла мужу і захапілася маладым прыгожым палякам Міхалоўскім, які пераехаў да яе..." Адлучаны да свету, пазбаўлены магчымасці мець стасункі з аднадумцамі, Агінскі ўвесь час праводзіць у прагулках па гораду, звязанаму з імёнамі Гайдна і Моцарта (з якімі, дарэчы, па ягонаму ўласнаму сведчанню, быў знаёмы), шмат працуе ў бібліятэках. Тым часам уся ягоная маёмасць у Польшчы і Беларусі (дзе яму належалі дзесяткі маёнткаў, у тым ліку Ракаў, Іўе, Гаўя, Бялынічы) была канфіскавана. Вымушаны эмігрант, ён жыве ў Венецыі (ужо пад уласным імем), іншых гарадах Італіі, потым у Турцыі, Малдавіі, Германіі, Францыі. Шмат на яго шляху гарадоў, людзей, падзей, але й тут нястомны творца знаходзіць час для тэатраў, музеяў, бібліятэк (аб гэтым мы пазнаём з ягоных лістоў да сяброў). Даследчыкі музычнай творчасці Агінскага лічаць, што менавіта ў гэты час ён працуе над сваім буйнейшым творам -- операй "Зеліс і Валькур, ці Банапарт у Каіры", адной з галоўных дзеючых асоб якой з'яўляецца Напалеон. Вядома, што імя французскага палкаводца было ў той час авеяна рамантычнай славай, нават Бетховен прысвяціў Банапарту знакамітую сімфонію нумар тры, зараз вядомую як "Гераічная", але зняў прысвячэнне, калі Напалеон абвясціў сябе імператарам... Агінскаму ўсё больш станавілася ясна, што Напалеон, які казаў пра польскіх легіянераў, што тыя "дзяруцца як чэрці", ніяк не спачуваў іх патрыятычнаму духу і карыстаўся іх дапамогай толькі дзеля здзяйснення сваіх захопніцкіх планаў. Да дыпламата прасвятленне прыйшло значна раней таго часу, калі Напалеон "на чале 500 000 арміі пераступіў мяжу літоўскіх правінцый у 1812 годзе". Захапленне героем змянілася расчараваннем, рамантычны арэол развеяўся...

І калі, дзякуючы дварцоваму перавароту, расійскім імператарам становіцца Аляксандр І, які неўзабаве дае ўдзельнікам паўстання амністыю, Агінскі вяртаецца на радзіму. У лютым 1802 года ён прыехаў у Пецярбург; прыбыў, як піша Л. Трэпет, "не толькі як чалавек, чыё імя было акружана арэолам славы, але і як кампазітар, творы якога з поспехам выконваліся па ўсёй Еўропе". Яму не толькі вяртаюць значную частку ягонай маёмасці, але й нават надаюць чын тайнага саветніка. Маёнткі за гэты час апынуліся ў вялікіх даўгах, і тады стары граф Францішак Ксаверы Агінскі, дзядзька Міхала Клеафаса, дорыць яму сваю сядзібу ў Залессі, на Гродзеншчыне, паблізу Смаргоні. Гэтыя мясціны на доўгія шчаслівыя гады сталі "прытулкам ціхім працы і натхнення" для вялікага творцы. Тут ён асталёўваецца на доўгае жыццё, будуе новы палац, разбівае парк, закладвае нават батанічны сад з рэдкімі раслінамі, звярынец. У яго амаль што стала жывуць госці -- ужо прыгаданы першы музычны настаўнік Восіп Казлоўскі, скрыпач, іспанец Эскузэра, італьянскі спявак Паліяні. Частыя дамашнія музіцыраванні збіралі дваранства з усёй Беларусі, літаратары, музыканты, палітыкі, вучоныя з Вільні (дарэчы, сам Агінскі з'яўляўся ганаровым членам Віленскага універсітэта), Пецярбурга, Варшавы гасцявалі тут цэлымі тыднямі. Утульнасць сядзібы, адукаванасць і шчырая гасціннасць гаспадара, частыя музычна-літаратурныя вечарыны, агульны ўзнёслы настрой гэтай "карлікавай дзяржавы" абумовілі тое, што сучаснікі назвалі Залессе "Паўночнымі Афінамі". Тут гучала камерная музыка кампазітараў розных краін, часта госці прасілі гаспадара выканаць свае ўласныя творы. А іх ужо было шмат. Менавіта тут, у Залессі, кампазітар стварае большую частку сваёй музыкі: вальсы, мазуркі, менуэты, рамансы на французскія тэксты і, зразумела, паланезы. Лічыцца, што і знакаміты ля-мінорны паланез ён таксама напісаў тут. "Гэта была "сустрэча з радзімай", але традыцыя назвала паланез "развітаннем". І, бадай што, гэта было правільна і больш адпавядала тону і настрою музыкі, вялікай яе журбе. Бо і ў радасці сустрэчы быў сум за лёс сваёй зямлі" (У. Караткевіч). Сум і боль, якімі прасякнута ягоная музыка, адзначае таксама й Ф. Ліст, які характарызуе паланезы Агінскага так: "Іх змрочны агульны характар змякчаецца пачуццём нейкай млосці, пяшчотнасці, наіўнага і меланхалічнага зачаравання. Рытм слабее, мадуляцыі змякчаюцца -- як калі б картэж, калісьці ўрачысты ды шумны, замоўк і прасякнуўся засяроджаным настроем, праходзячы паблізу магіл, у суседстве з якімі змаўкаюць гордасць і смех... Затым магілы адступаюць... адыходзяць удалячынь... ледзь віднеюцца ўдалечыні. Жыццё прад'яўляе свае правы; цяжкія ўражанні ператвараюцца ва ўспаміны і вяртаюцца толькі ў выглядзе водгаласаў". Паланезы Агінскага выдаюцца ў Вільні, Варшаве, Пецярбургу, Берліне, Вене, Лейпцыгу, іншых гарадах Еўропы. Яны гучаць у салонах, імя іх аўтара становіцца сусветна вядомым. Але Агінскі не пакідае і палітычную дзейнасць. Ён бывае ў Вільні, Пецярбургу, Парыжы, сустракаецца з уплывовымі асобамі еўрапейскіх дзяржаў, а ў 1810 годзе становіцца сенатарам Расійскай імперыі і нават даверанай асобай імператара, што дае яму падставу разлічваць на ўвагу апошняга да Літвы і яе патрэбаў. У 1811 годзе сенатар Агінскі падае Аляксандру І праект заснавання Вялікага герцагства Літоўскага (аўтаномнага ў складзе Расійскай імперыі), куды павінны ўвайсці Гродзенская, Віленская, Мінская, Віцебская, Магілёўская, Кіеўская, Падольская і Валынская губерні, а таксама Беластоцкая і Цярнопальская акругі са сталіцай у Вільні. У лісце да Аляксадра І Агінскі пісаў, што "гордыя сваім паходжаннем ліцвіны... захавалі свае звычаі, свой грамадзянскі кодэкс, свае ўстановы... Так моцна трымаліся сваіх прэрагатыў, што... нельга было схіліць ліцвінаў адрачыся ад іх". Не дзіва, што Агінскі так шчыра верыў цару, бо, па сведчанню Ключэўскага, "24-гадовы імператар стаў прадметам захопленай увагі ды й абажання. Самая знешнасць, абыходжанне, з'яўленне на вуліцы яго, як і абставіны, рабілі чароўнае дзеянне". У той час, як і герой верша Пушкіна, Міхал Клеафас мог усклікнуць:

**Ці ўбачу, о сябры!**
**Я вольнымі народы**
**І рабства, што загіне**
**з міласці цара,**
**І над радзімаю**
**асвечанай свабоды**
**Ці ўзыдзе ўрэшце**
**цудадзейная зара!**

Але час паказаў: не ўзышла. Праект быў адхілены імператарам, як не адбыліся й планы аб палягчэнні жыцця прыгонных сялян, пра жудасны стан якіх ён таксама дакладаў цару: "Агульная беднасць народа ў Літве выклікала ў мяне пачуццё жалю".

Агінскі траціць вялікія ўласныя сродкі на дзейнасць Віленскага дабрачыннага таварыства, прэзідэнтам якога з'яўляецца, будуе ў Вільні дом для бедных, адкрывае ў Маладзечне школу і перадае туды частку сваёй бібліятэкі. Сябруе з прадстаўнікамі таварыстваў філарэтаў і філаматаў, спачувае іх ідэям. І ў 1822 годзе, калі пачынаюцца арышты членаў таварыстваў, Міхал Клеафас вырашае нарэшце пакінуць радзіму. Ці ведае ён, што назаўсёды?

"Нічога не збылося з таго, аб чым марыў. Нічога, акрамя музыкі. Напалеон не нёс вызвалення. Ён нёс пакуты і кроў. Нельга было ісці за ім. Але нельга было ісці і за царом. Нельга было жыць на радзіме, лёсам якой заставалася рабства". (У. Караткевіч). Агінскі ўладкоўваецца ў Фларэнцыі, у горадзе так любімага ім Дантэ. У 1826--1827 гадах у Парыжы выходзяць яго "Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1788 па 1815 год". Падзеі, сведкам якіх ён з'явіўся, уласныя роздумы і пачуцці склалі 4 тамы, напісаныя на французскай мове (зараз ёсць іх польскі і нямецкі пераклады). Там жа ў 1828 годзе выйшлі і яго "Лісты аб музыцы", дзе кампазітар дае апісанне музычнага жыцця Еўропы XVIII -- пачатку XIX стагоддзяў (працу над абодвума літаратурнымі творамі Агінскі пачаў у Залессі). Музыку ён ужо амаль што не піша. Не прымае таксама аніякага ўдзелу ў палітычным жыцці. Па-ранейшаму займаецца гісторыяй, плануе другое выданне "Мемуараў", працуе над працягам гісторыі Польшчы. Апошнія 11 гадоў жыцця ў вымушанай эміграцыі (які ўжо раз!) пранікнуты думкамі аб Радзіме... Міхал Клеафас памёр у Фларэнцыі 15 кастрычніка 1833 года. "Чалавек, на жаль, памірае... Нават калі ён піша неўміручую музыку..." (У. Караткевіч).

**І доўга буду тым прыязны**
**я народу,**
**Што лірай добрыя**
**пачуцці абуджаў.**
**Што ў мой няўмольны век**
**уславіў я свабоду**
**І літасць да нябог гукаў.**

Чалавек-легенда. Горды і чуллівы. Таленавіты дыпламат і цэльная, непадзельная постаць. Грамадзянін, вялікі сын вялікай зямлі. І творца, музыка якога будзе кранаць самыя пяшчотныя струны душы яшчэ не аднаго пакалення...

Міхалу Клеафасу Агінскаму сёлета "споўніцца" 230 год. З гэтай нагоды нацыянальнае тэатральна-канцэртнае аб'яднанне "Беларуская Капэла" правядзе ў лютым яго манаграфічны фестываль, дзе прагучаць усе вядомыя на сённяшні дзень творы ўсімі любімага кампазітара. Упершыню многія з іх прагучаць у нас. Гэта наша даніна павагі вялікаму суайчынніку. У буклеце, які будзе выдадзены да гэтай падзеі, упершыню на беларускай мове прагучаць словы самога Міхала Клеафаса, некаторыя з якіх я змясціла ў гэтым артыкуле (пераклад урыўкаў з "Мемуараў" Агінскага з польскай мовы зрабіў У. Мархель). Выкарыстаныя пушкінскія радкі я "пазычыла" ў беларускіх паэтаў-перакладчыкаў Пятра Глебкі, Рыгора Барадуліна, Юрася Свіркі, Сяргея Грахоўскага, Уладзіміра Шахаўца. Вельмі дапамаглі мне таксама працы І. Бэлзы, Л. Трэпет, В. Дадзёмавай, М. Багадзяжа, А. Ліса, а натхнёнае эсэ У. Караткевіча "Песня з Паўночных Афін" надало гэтым нататкам агульны лірычна-меланхалічны тон і абудзіла захопленае спачуванне лёсу бессмяротнага продка.

**Наталля СОБАЛЕВА.**

**Заканчэнне. Пачатак у № 1.**

# ТЭАТР, ЯКІ ЗДЗІЎЛЯЕ СВАІМІ ПАСТАНОЎКАМІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Праўда, кантракт больш нагадвае дамову. Тым не менш, такая сістэма здымае пытанне дысцыпліны ў тэатры. В.Мазынскі гаворыць на гэты конт:

-- Мне не хочацца хадзіць па тэатры і вышукваць тых, хто не працуе. Хочацца адчуваць, што побач са мной -- творчыя людзі, хай вельмі розныя і складаныя, але адданыя тэатру. Акрамя любові да тэатра, іх тут нічога не трымае.

Часта В.Мазынскага пытаюць, што ёсць вольнасць на "Вольнай сцэне". Сапраўды, назва даволі гучная, калі не сказаць прэтэнцыёзная. Тэатр з эканамічнага боку зусім нельга назваць вольным. Ён фінансуецца дзяржавай. Яна дае яму сродкі, якія зусім не дазваляюць зацікавіць матэрыяльна акцёраў і іншых супрацоўнікаў тэатра. Аднак тэатр усё ж такі вольны ад дыктату жанру, які выбіраюць аўтары спектакля, ад узросту і імя аўтара п'есы.

У тэатра няма свайго будынка. Але ён арандуе памяшканне. Наваселле тэатр адзначыў летась у лістападзе. Цяпер тэатр смела адчыняе свае дзверы перад усялякімі новымі ідэямі, творамі. У фае працуе мастацкая выстава, выступаюць музыкі.

Сёння рэпертуар тэатра складаюць вельмі розныя па жанру, ідэях спектаклі. Тацццяна Мархель іграе ў вадэвілі "Паваліўся нехта" па п'есе У.Галубка і Л.Родзевіча. Ёсць у рэпертуары і фарс-рэпетыцыя "Нагавіцы Святога Георгія" па п'есе М.Адамчыка і М.Клімковіча (рэжысёр А.Гузій). Жахлівую камедыю "Прыватны сектар" паставіў аўтар п'есы М.Казачонак пад мастацкім кіраўніцтвам В.Мазынскага.

М.Адамчык і М.Клімковіч напісалі для тэатра яшчэ адну п'есу -- "Чорны квадрат". У хуткім часе адбудзецца прэм'ера спектакля, які будзе зарыентаваны на элітную публіку, гэта значыць -- на людзей, якія ў стане заплаціць за білет 10--15 долараў. Спектакль будзе нагадваць шоу, а зала ператворыцца ў кафэ.

Рыхтуецца да пастаноўкі "Рычард III" па п'есе У.Шэкспіра. У сувязі з гэтым хочацца паведаміць пра яшчэ адну ініцыятыву тэатра-лабараторыі. Расказвае В.Мазынскі:

-- Наш тэатр садзейнічае перакладу лепшых твораў замежнай драматургіі на беларускую мову. Справа ў тым, што такіх перакладаў вельмі мала, бо яны з'яўляліся толькі з нагоды пастаноўкі ў тэатры. Часцей за ўсё гэта былі пераклады на рускую мову. Мы знайшлі фундатараў, якія згадзіліся спрыяць перакладам. І гэта пры тым, што дапамагаць культуры камерцыйным структурам сёння зусім нявыгадна. У Германіі, напрыклад, для фундатараў культуры існуе льготнае падаткаабкладанне. У нас жа такога няма. Але, як ні дзіўна, людзі знаходзяцца і дапамагаюць.

Апошняя прэм'ера на "Вольнай сцэне" -- спектакль "Барбара Радзівіл" па паэтычнай драме выдатнай беларускай паэтэсы Раісы Баравіковай, якая ўпэўнена, што "каханне -- вечны рухавік жыцця". Яна стварыла незвычайную паэтычную драму. Гісторыя народа і гісторыя кахання Барбары Радзівіл і Жыгімонта Аўгуста -- вось тэма п'есы. Спектакль, пастаўлены В.Мазынскім, вельмі прыгожы. Цудоўная музыка і касцюмы, зусім маладыя акцёры, у якіх так шмат энтузіязму і жадання нешта стварыць на сцэне.

Кожны са спектакляў на "Вольнай сцэне" мае сваю адметнасць і вылучаецца лёгкасцю На іх -- адбітак маладосці, смеласці і адсутнасці комплексаў. Калі вы хочаце пагледзець сучасныя цікавыя спектаклі, якія ствараюць маладыя людзі, прыходзьце на "Вольную сцэну". Калі ж вы пішаце п'есы і марыце ўбачыць іх на сцэне, таксама прыходзьце на "Вольную сцэну". Раптам вам пашанцуе.

**Алена СПАСЮК.**

## ПРЭМ'ЕРЫ



**Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску ў канцы мінулага года паказаў прэм'еру спектакля па п'есе А. Макаёнка "Святая прастата". Пастаноўку ажыццявіў рэжысёр Аляксандр Смелякоў, сцэнаграфія і касцюмы заслужанага дзеяча культуры Беларусі Аляксандра Салаўёва, музыку напісаў Барыс Насоўскі.**

**НА ЗДЫМКУ:** сцэна са спектакля.

Фота Аляксандра ХІТРОВА.

## ВАНДРОЎКА Ў ПАРЫЖ

# У ПОШУКАХ НЕАДКРЫТАГА



Менавіта так падпісана на зеленаватай папяровай вокладцы твора "Парижиана, или Парижские Письма" -- своеасаблівыя разгорнутыя допісы ў расейскія газеты і часопісы канца 1870 -- пачатку 1880-х гадоў. Значыць, публікацыі іх варта пашукаць у тагачаснай рускай перыёдыцы, айчыннай і эміграцыйнай.

Агульная колькасць адзнятых ксеракопій з матэрыялаў А. Рыпінскага і В. Сулімы-Савіч-Заблоцкага перавышае некалькі соцень старонак. Але не ўсё каштоўнае ўдалося скапіраваць. Шмат арыгінальных матэрыялаў па гісторыі Беларусі (ліст гранічны Жыгімонта-Аўгуста, пададзены паслам Івана Жахлівага адносна мяжы паміж Вялікім Княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім ды Масковіяй, 1570 год), аўтографы Льва Сапегі, Астафея Валовіча, Уршулі-Францішкі Радзівіл, універсалы, мемарандумы, літаратурныя панегірыкі, што паўставалі на нашых землях.

Асобую каштоўнасць уяўляе гісторыка-этнаграфічны нарыс пра Наваградчыну (рукапіс пачатку XIX стагоддзя), літаратурна-палітычныя адозвы з часоў паўстання пад началам Тадэвуша Касцюшкі, немалы рукапіс жмудзінскага сябрука В. Дуніна-Марцінкевіча Міколы Акялевіча-Акелайціса па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, напісаны ў 1861–1862 гадах.

Прывёз з сабою і важкі машынапіс Дыянізіі Вратноўскай "Слоўнік польскіх мастакоў, графёраў, літографаў і выдаўцоў эміграцыі 1830 года" (Wrotnowska Denise. Dictionnaire des artistes polonais Peintres, graveurs, lithographes et dessinateurs de l'emigration de 1830. Paris, 1948), ахвяраваны для Аддзела рукапісаў нашай акадэмічнай бібліятэкі супрацоўнікам Польскай бібліятэкі ў Парыжы Рышардам Матурам. На штудзіраванне гэтага тома ў Парыжы проста не хапіла часу. А ў ім сустракаюцца постаці і беларускія: хтосьці Ігнат Будзіловіч (1805--1863) паходзіў з region de Bialoweza; Луі Булеўскі, літвін (Bulewski Louis (1824--1883), d'une famille lithuanienne), Аляксандр Ходзька-Барэйка (1804--1891) нарадзіўся ў нейкіх Крывічах (Krzywicze)...

Штодня блукаючы па Парыжу, міжвольна згадваў, як нашыя спадарыні пры слове "Парыж" губляюць прытомнасць, таму не шкадаваў сваіх ног. Шанс Алезі. Булонскі Лес. Манмартр. Палас Раяль. Адэон. Беласнежны купал Сакра-Кёра ў не па-восеньску блакітным парыжскім небе. Амаль гадзіну праседзеў у гэтай базіліцы. Сакавітыя кветкі на вітражах. Сам алтар -- распяты Хрыстос -- распісаны пазалотаю. Сядзіш у цемры, а цябе не пакідае ўспамін, як падымаўся-заходзіў сюды, караскаючыся ўгару. Нібы дзесь у Ашгабадзе, мусульманскай Туркменіі.

Сінь неба і бялюткі купал. Белы-белы Сакра-Кёр. Нібы штось турэцкае, усходняе. І разам з тым -- хрысціянства. Паабапал алтара ўгары крылатыя анёлы, прыкаваныя да столі, нагадваюць легенду пра несмяротнага Праметэя.

Наогул, храмаў у Парыжы багата. І амаль усюды --найбагацейшыя вітражы-мазаіка, нібы старажытныя фрэскі-роспіс. Зззяюць-зіхацяць багаццем колераў. А ў касцёле св.Амброжыка не проста мазаіка, а сама дасканаласць. Вытанчаная і ажурная. "Як увесь Парыж", -- трапна заўважыць Галіна. Ад Парыжа не стамляешся, бо няма груваскасці, аляпаватасці, цяжару звыклых манументаў (пераважна сталінскай эпохі) у Варшаве, Маскве, Пецярбургу (кшталтам мінскага Палаца прафсаюзаў). Парыж -- гэта ажур каменняў і фантазіі. Лозы дзікага вінаграду, якім апавіта гранёная ўзбярэжная Сены ля Нотр-Дама, здаюцца не дзікімі раслінамі, а дэкаратыўнай зелянінай, дагледжанай рукою рупнага садоўніка.

Каб чытач не падумаў пра суцэльнае захапленне недасяжным для большасці горадам-мараю, скажу: падабалася не ўсё. Да прыкладу, радэнаўскі помнік Бальзаку. Экспрэсія, якая пераходзіць ці не ў карыкатуру. У дадатак, пастаўлены вельмі няўтульна, на вастрыні бульвара Манпарнас, вуліцы Манпарнас і яшчэ нейкай. У параўнанні з ім азгураўскі помнік Коласу ў нашым Мінску падаўся геніяльным.

Амаль кожны адвячорак мы кіраваліся да Эйфелевай вежы. Так, расквечаная рознакаляровымі ліхтарамі, з феерверкамі дзесятка ўключаных непадалёку фантанаў (найлепш сузіраць іх з вышыні гары Тракадэра). Эйфелевая вежа ўвечары прыгажэйшая, чым жалезны каркас пры дзённым святле.

На спакойна-сузіральны меланхалічны настрой уплывае не толькі архітэктурны вобраз Парыжа, але і няспешная хада парыжан, звыклых бавіць вольны час у шматлікіх кавярнях -- адкрытых шкляных памяшканнях, дзе сядзіш, нібы на вітрыне, і дзе досыць утульна, асабліва ў дождж. Бо дождж ёсць дождж, і тады нават зіхоткая плошча ля гатэля дэ Віль падасца самотнай, закінутай, а святочныя ліхтары на ёй стаяць, бы акалелыя постаці. І ад брызготных фантанаў патыхне зябкай вогласцю.

Наогул, парыжане -- люд паважны. У метро не кінуцца подбегам на гук падышоўшай электрычкі (што ў першыя дні вельмі дзівіла мяне, не астылага ад тэмпу мінскіх клопатаў перад зборам у няблізкую і адказную вандроўку). Маўляў, паспеем. Нават пехатою. Парыж -- горад невялікі. А пакуль паслухаем музыку. Вандроўных гітарыстаў, акардэаністаў, скрыпачоў, саксафаністаў у парыжскай падземцы нямала. Прыязджаюць жабраваць з паў-Еўропы.

Што тут зручней на кароткія адлегласці дабірацца на сваіх "дваіх", пераканаліся, выбраўшыся ў Луўр, да якога з вуліцы Гравільe ехаць метро хвілін 18, а вольным, няспешным крокам зойдзеш і за 15.

У Луўры акурат на Венеры Мілоскай скончыўся 36-ты кадр маёй каляровай AGFACOLOR. І толькі перазараджаючы плёнку, пабачыў побач на сценах таблічкі: фотаапарат перакрэслены крыж-накрыж чырвонымі паласамі. Здымаць забаронена! Ажно рассмяяўся. Бо такіх "аслеплых" "фатографаў-аматараў" -- дзесяткі. Найбольш шчыруюць японцы, таропка хаваючы ў кішэні гатовыя каляровыя здымкі.

Афрадзіта Кмідэ. Бязрукая, але дасканалая. Гледзячы на працу Паола Учэла (1397--1475) "Баталія", я разумею, адкуль пайшоў Матэйка з ягонай велічнай "Бітвай пад Грунвальдам". Пабляклыя белыя колеры, ад якіх амаль нічога не засталося яркага (хоць гэта праца ў свой час, адчуваецца, была дужа параднай). У хлопчыку "Гандляру вафель" Джузэпе Рыберы (1642 год) я пазнаю знаёмы капарыт фарбаў майго земляка Фердынанда Рушчыца.

Стоены роздум перад незямною "Монай Лізай" Леанарда да Вінчы. Як сказала Галіна, "свет у яе ідзе з грудзей". Самае светлае месца на партрэце. Таму ва ўсім такі спакой. Ніводная з раней бачаных рэпрадукцый гэтага ўражання не перадавала. І таму карціна набывае сімвалічны сэнс.



Славутыя "Сляпыя" Пітэра Брэйгеля павешаны так высока, што лёгка можна прайсці і нават не здагадацца, дзе яны. Робіцца ніякавата, калі дзесяткі людзей мінаюць запаветную для мяне залу, не падымаючы галавы на сусветна вядомы шэдэўр.

Адрываючы позірк ад сотняў карцін, габеленаў, скульптур, гляджу з акна Луўра на плошчу. Перад шкляной пірамідай даўжэзная чарга. Магу параўнаць яе толькі з вядомай калісь чаргою ў Маўзалей на Краснай плошчы. І як могуць капіталісты спакойна назіраць, што на вуліцы марнуецца гэтулькі грошай?! Адзін білет нядзельны -- 20 франкаў (4 долары).

Лёс ёсць лёс. Каго б вы думалі я спаткаў у Луўры? Прафесара Ежы Клачоўскага, сакратара ЮНЕСКА ад Польскай Рэспублікі, з якім пазнаёміўся колькі гадоў таму на міжнароднай канферэнцыі ў ягоным родным Любліне. Паважаны прафесар абяцае і тут паспрыяць маім росшукам у архівах Сарбоны і Нацыянальным. Зрабілі здымак на памятку пры карціне Дэлакруа "Свабода Францыі".

Дырэктар Польскай бібліятэкі ў Парыжы прафесар Лешак Талька не абмежаваўся апекай нада мною толькі ў сценах сваёй установы. Пры ягоным удзеле, а таксама супрацоўніка Беларускай амбасады ў Францыі Яўгена Юшкевіча я наведаў Нацыянальны архіў Францыі, Нацыянальную бібліятэку і бібліятэку Сарбонскага універсітэта. У апошняй планаваў выканаць просьбу Вітаўта Кіпеля -- паглядзець спісы студэнтаў Сарбоны XVII--XIX стагоддзяў на прадмет пошуку нашых землякоў. Высветлілася, што гартаць іх трэба не ў Парыжы, а ехаць у Фантэнбло, куды дабрацца я не паспеў.

Але зрабіць кароткую вандроўку ў ваколіцы Парыжа давялося.

З пратэкцыі прыязнага дырэктара Талькі мне арганізавалі спатканне з дырэктарам Літаратурнага інстытута і адначасова галоўным рэдактарам парыжскай KULTURY Ежы Гедройцем. Рэдакцыя месціцца пад Парыжам, у мясцовасці Мейсон-Лафіт (91, Avenue de Poissy, Le Mesnil-le-Roi). Размова з ім пачалася са згадкі пра майго земляка Паўла Здзяхоўскага, колішняга паплечніка і супрацоўніка КУЛЬТУРЫ. Павел нарадзіўся ў Ракаве 1 лютага 1914 года, вучыўся на юрыста ў Варшаве; з 1938 года пачаў працаваць у Міністэрстве замежных спраў, пасля вайны апынуўся ў Парыжы на эміграцыі. Ягоны бацька, вядомы польскі празаік пачатку нашага стагодзя Казімір Здзяхоўскі, загінуў у Асвенціме. На жаль, і сын памёр даўно, у адносна маладым веку. (Удава, Зофія Здзяхоўская, з якой потым я размаўляў па тэлефоне, таксама паходзіць з Беларусі; спадарыня Здзяхоўская даўно не чула беларускага слоўца, хоць у маленстве з братам выхоўвалася мясцоваю нянькаю.

**"Грыб-грыб баравік --**
**над грыбамі палкаўнік",**

-- праспявала яна ў тэлефонную трубку адзін з сваіх яркіх успамінаў маленства. Такі яркі, што, згадаўшы яго, 80-гадовая пані Зофія звонка рассмяялася, нібы гарэзны падлетак).

Сам жа Ежы Гедройць таксама згадвае Беларусь з сантыментам. Высвятляецца: і ён наш зямляк. Нарадзіўся ў Мінску 27 ліпеня 1906 года. Пачуць такое сведчанне з вуснаў апостала сучаснай польскай эміграцыі -- сенсацыя! Усе афіцыйныя энцыклапедычныя выданні называюць ягоным месцам нараджэння Варшаву.

-- Гэта таму, -- спакойна, як пра даўно мінулае, перажытае, а таму зусім не вартае сур'ёзнае ўвагі дапытлівага маладзёна, тлумачыць мне 88-гадовы стары, -- што ў час апошняй вайны я быў у войску Андэрса. Дэмабілізаваўся ў Францыі. Быў гэта перыяд вельмі нядобры. Кіравалі тут у значнай ступені камуністы, якім дапамагала НКВД. Палявалі на людзей нават на вуліцах Парыжа. Таму пасля дэмабілізацыі самі французы параілі мне падаць пра сябе фальшывыя звесткі, гэта значыць, напісаць, што нарадзіўся ў Варшаве, а не ў Мінску, бо "тады спадара могуць "potraktowac" як грамадзяніна СССР і мець падставы для дэпартацыі. Цягнулася гэта шэраг гадоў. Ну а пазней папраўляць -- толькі блытаніну рабіць. Так і жыву варшавякам.

Пра сучасную Беларусь спадар Гедройць ведае нямала, бо чытае нью-йоркскі "Беларус", віленскую "Нашу ніву" і мінскую "Свабоду".

-- А яшчэ аддаўна, ці не гадоў 15, атрымліваю "Голас Радзімы". У яе нумарах ёсць цікавая ўкладка з гісторыі Беларусі аўтара Захара Шыбекі. Вельмі сцісла і ясна напісана. А перад тым друкавалася гісторыя Мінска, што мяне вельмі цікавіла.

Прычына такой цікавасці цяпер нам вядомая. З успамінаў маленства ў рэдактара Гедройца найбольш памятныя -- Кальварыйскі цвінтар ("там пахавана шмат маіх крэўных"), былая Залатая Горка, парк над Свіслаччу...

-- Пад канец вайны мне было адназначна зразумела, што мусім застацца ў эміграцыі. Шлях у сацыялістычную Польшчу не прываблiваў. Да таго ж паўсюдна панавалі настроі, нібыта зараз пачнецца новая вайна і межы будуць перагледжаны. Бо ані Амерыка, ані Захад не жадалі пашырэння сацыялістычнага лагера. Я разумеў: раз засталіся на эміграцыі, трэба праводзіць нейкую дзейнасць. Напачатку вялікай энергіі патрабавала дзейнасць арганізацыйная, бо ўся эміграцыя была рассыпаная. Яшчэ ў Варшаве, у міжваенны перыяд, я назіраў за расійскай эміграцыяй і бачыў, наколькі яна была між сабою рассвараная. Таму не стаў пачынаць з высвятлення, якімі шляхамі вызваляць Бацькаўшчыну. Я ўжо тады меў перакананне: адзіным грунтам для дзейнасці ёсць слова. Выданне кніг і перыёдыкі.

Беларуская ж эміграцыя ў Францыі вельмі малалікая. Нават без аніякага параўнання. Але сумеснае беларуска-французскае таварыства CHAURUS тут існуе. (Гэта яно і запрасіла Галіну і Валяр'яна як сяброў Саюза мастакоў Беларусі).

З намеснікам CHAURUS, скульптарам Міхасём Навумовічам (ён аўтар помніка кампазітару Міколу Равенскаму ў Дювэне), адбылася не адна прыемная бяседа за кілішкам роднай "Белавежскай" і за келіхам белага французскага віна.

-- Сам я з-пад Наваградка. Вёсачка Кашалёва, напаўдарозе ад Наваградка да Наваельні. Бацькі таксама паходзілі з Кашалёва. У нас там усюды лясы -- маё любімае месца-схрон у любую пару года. У вайну я там нават бібліятэку хаваў. У мурашніку. Як адведваў цяпер нядаўна радзімыя мясціны, пайшоў зірнуць, што з кнігамі сталася. Дзе там! Саміх мурашнікаў не засталося. А былі ледзь не ў мой рост. Суседка адна мяне пазнала. Кажа: "Я вас памятаю. Вы да вайны на руках па падвор'і хадзілі". А я спортам вельмі любіў займацца. Спорт і маляванне -- найпрыемнейшыя для мяне рэчы. Тут пры ўваходзе ў касцёл Фаунс Энс ёсць мая скульптурная праца (рэльеф), якую рабіў разам з іншымі 8 вучнямі свайго прафесара (гэта ён атрымаў замову, а мы выканалі). Яшчэ адну падобную працу маю ў касцёле Святой Жанны Д'арк, 200 кіламетраў ад Парыжа. Думаю яшчэ паставіць не адзін помнік і на Беларусі. Цяпер на Беларусі свабадней. Трэба толькі, каб гэтая вольнасць патрывала, каб чалавек палюбіў яе. Тады ўжо ніколі не захоча зноў жыць у няволі. Ніколі.

Слухаў ягоныя непаўторныя ўспаміны пра маладосць, гэта значыць, пра пакручастае мінулае нашай Бацькаўшчыны (вечаровыя ўспаміны сталых людзей -- найлепшае кіно!) і балюча думаў: колькі смелых, таленавітых, светлых постацей выгнала з беларускага дому ваеннае і сталінскае ліхалецце (легендарны ўжо Янка Філістовіч быў найбліжэйшым сябруком Міхася ў часы эміграцыйнае маладосці). Яны жылі з непахіснаю вераю ў ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчанай 25 сакавіка 1918 года.

На пэўныя сляды дакументаў часоў прэм'ерства Вацлава Ластоўскага я натрапіў у Нацыянальным архіве Францыі на вуліцы рю дэ 4 Філ, вывучыць якія неставала часу.

Так што Парыж у далейшых планах беларускіх даследчыкаў павінен заставацца актуальным.

Выяўленыя ж цяпер матэрыялы будуць выкарыстаны пры напісанні новай гісторыі беларускай літаратуры.

Польская эміграцыя, якая вылучыла мне стыпендыю, дала магчымасць упершыню даследаваць архівы Францыі прадстаўніку беларускай гуманітарнай навукі.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ:** заснавальнік парыжскай "Культуры" Ежы **ГЕДРОЙЦЬ**.

**Заканчэнне. Пачатак у № 1.**

